



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

29 студзеня 2016 года №5 **(1083)**




Супраць будаўніцтва свінакомплексу выступілі не толькі маладзечанцы, а і валожынцы, вёскі якіх знаходзяцца побач з мяркуемай пабудовай. Ірына Ярук збірала подпісы ў снежні 2014 года ў роднай Раеўшчыне, што ў трох кіламетрах ад Маладзечна.

# Эколагі зрабілі 30 заўваг

## Завершаная экалагічная экспертыза свінакомплексу на Маладзечаншчыне

старонка 21

Фота з архіва "РГ".

УЛАДА

## Якія пытанні прыводзілі жыхароў Вілейшчыны на прыём да старшыні Мінаблвыканкама

ВІЛЕЙКА

**Старшыня Мінскага аблвыканкама Сямён Шапіра даручыў прааналізаваць працу маршрутных таксі ў вобласці і пры неабходнасці ўнесці карэкціроўкі.**

Адпаведнае распараджэнне ён даў 20 студзеня ў час выязнога прыёму грамадзян.

Падставай да адпаведнага даручэння кіраўніка вобласці стаў разгляд звароту дзвюх жыхарак вёскі Карпавічы. Жанчыны звярнуліся да Сямёна Шапіры па пытанні добраўпарадкавання аўтадарогі Н9119 Радашкавічы-Загорцы-Карпавічы і графіка работы грамадскага транспарту па існуючых маршрутах. Па іх словах, стан пясчана-жвіровага пакрыцця дарогі з'яўляецца праблемай, з-за якой у Карпавічы не заўсёды даходзяць рэйсавыя аўтобусы. Гэта абцяжарвае сувязь з гарадамі вобласці і са сталіцай.

Акрамя таго, адзін з найбольш зручных маршрутаў арганізаваны суседнім Маладзечанскім раёнам. У ходзе гутаркі высветлілася, што праз населены пункт ўсё ж праходзяць некалькі маршрутаў грамадскага транспарту дзяржаўных і прыватных перавозчыкаў Вілейшчыны, якія дазваляюць дабрацца да раённага цэнтра, а адтуль – у іншых кірунках. Жанчыны панаракалі, што часцяком такія паездкі з'яўляюцца даволі затратнымі. Па іх здагадцы, з-за таго, што не ходзяць аўтобусы, становіцца больш прыватных маршрутных таксі. Заяўніцы выказалі меркаванне пра неабходнасць павелічэння колькасці рэйсаў дзяржаўных перавозчыкаў.

Старшыня аблвыканкама звярнуў увагу старшыні Вілейскага райвыканкама **ВіктараКата** на неабходнасць грэйдзіравання дарогі, пра якую вялі размову жанчыны, а таксама на больш цеснае ўзаемадзеянне ў арганізацыі перавозак з прадпрыемствамі-перавозчыкамі, у тым ліку іншых раёнаў.

Па маршрутных таксі старшыня аблвыканкама даручыў Мінаблаўтатрансу і камітэту эканомікі Мінаблвыканкама ў цэлым па вобласці прааналізаваць іх работу.

Жыхарка аграгарадка Даўгінава прыйшла на прыём з пытаннем пастаноўкі на баланс і тэхнічнае абслугоўванне 12-кватэрнага жылога дома, у якім жыве сама. Сямён Шапіра распарадзіўся аказаць садзейнічанне ў пастаноўцы дома на баланс прадпрыемства сістэмы ЖКГ, афарміць адпаведныя дакументы ў бліжэйшы час і ў будучыні запланаваць уключэнне дома ў графікі рамонту.

Старшыня Мінаблвыканкама больш чым за тры гадзіны выслухаў 10 грамадзян.

Іх звароты тычыліся адводу зямельнага ўчастка пад пабудаваны аб'ект турыстычнага комплексу і падаўжэння тэрміну інвестыцыйнага дагавора, капітальнага рамонту жылога дома, вылучэння матэрыяльнай дапамогі, прыватызацыі жылля, працоўных спрэчак і іншага.

Усе звароты будуць разгледжаны ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Паводле БЕЛТА.**

ТРАНСПАРТ

## Новы экспрэс-маршрут уводзяць у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

У горадзе збіраюцца запусціць з 1 лютага новы экспрэс-маршрут №7.

– Яго ўводзяць для таго, каб разгрузіць паток пасажыраў ад мікрараёна "Паўночны", – патлумачыла вядучы інжынер аддзела перавозак аўтапарка №5 **Тамара Субач.**

Абслугоўваць маршрут будзе новая "Газэль" на 18 месцаў. Яна будзе ездзіць ад прыпынку "Вуліца Валынца" да басейна "Сатурн" па маршруце "тройкі", але па прамой – не будзе заязджаць на аўтавакзал, вуліцу Піліпа Орліка, СШ №5 і прыпынак "Вуліца Ведаў". Ад Валынца да басейна "Газэль" давязе прыкладна за 20 хвілін.

Экспрэс-маршрут №7 у горадзе пакуль будзе хадзіць па будных днях. Праехаць на "сямёрцы" абыдзецца ў 4 500 рублёў – білеты можна будзе набыць у кіроўцы.

Расклад руху такі:
ад басейна "Сатурн" – у 6:45, 7:45, 11:35, 12:30, 16:10, 17:00;
ад Валынца – у 7:15, 8:05, 12:00, 13:00 16:35, 17:20.

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРСЫ

# У Мядзеле і Вілейцы выбіралі "Новыя імёны Беларусі"

МЯДЗЕЛ

**"Ой, поўная зала гледачоў", – радаваліся арганізатары.**

Багата людзей прыйшло ў Мядзельскі ГДК 24 студзеня перажываць за ўдзельнікаў раённага этапу рэспубліканскага прафсаюзнага творчага конкурсу "Новыя імёны Беларусі-2016".

Сёлета конкурс праходзіць у дзвюх намінацыях. Адна з іх – "Сцэнічная творчасць". Са сцэны можна было пачуць і энергічныя эстрадныя песні, і духоўныя спевы. Выступалі як салісты, так і хары – усяго 33 удзельнікі з розных куткоў раёна.

Пераможцамі сталі людзі самых розных прафесій: **Вікенці Канецкі** з Княгінінскай газанапаўняльнай станцыі, культарганізатар санаторыя "Белая Русь" **Надзея Куцкевіч**, галоўны эканаміст Мядзельскага аграсэрвісу **Вольга Гіршык.** Прыз сімпатый гледачоў атрымаў дуэт з упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання ў складзе **Уладзіміра Бурага** і **Анжалікі Расковай.**

А ў перамежку паміж выступленнямі дзяўчаты выносілі на сцэну вырабы ўдзельнікаў другой намінацыі – "Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва".

У фае Дома культуры выставілі зробленыя імі вырабы: вязаныя лялькі-беларусы змянялі вырабы з залацістай саломкі, незвычайныя цацкі – кампазіцыі з халоднага фарфору. А найбольш было вышывак.

У гэтай намінацыі лепшымі сталі зубны доктар Нарацкай участковай бальніцы **Святлана Канопка**, дырэктар цэнтра творчасці, турызму дзяцей і моладзі **Таццяна Урпшас**, супрацоўніца аддзела ахоўвы санаторыя "Жураўка" **Святлана Саўчук.** Прыз сімпатый гледачоў атрымала бібліятэкарка цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Танка **Алена Нарэйка**.

– Прыемна, што гледачы не разыходзіліся, чакалі падвядзення вынікаў. Падтрымалі ўдзельнікам, а ў канцы разам праспявалі "Песня застаецца з чалавекам", – дзяліцца старшыня Мядзельскага раённага аб'яднання прафсаюзаў **Святлана Чарняўская**.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Дзяўчаты ў Мядзеле выбіраюць, якія работы ўдзельнікаў паказаць гледачам.

## Вілейка: медыкі, настаўнікі, ЖКГ

ВІЛЕЙКА

**Раённы этап конкурсу "Новыя імёны Беларусі-2016" прайшоў 22 студзеня ў Палацы культуры.**

Тут жа гледачы маглі пабачыць на выставе вырабы ўдзельнікаў конкурсу ў намінацыі "Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва" .

– У параўнанні з мінулым годам узрасла колькасць удзельнікаў, і намінацый стала больш, не было абмежаванняў па ўзросце, – расказала старшыня Вілейскага раённага аб'яднання прафсаюзаў **Наталля Прэпесць**. – Лічу, што выступалі ўсе дастойна.

На абласным этапе конкурсу Вілейскі раён прадстаўляць у намінацыі "Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва" **Паліна Хацяновіч** з "Новай Любані", **Анастасія Міхайлава** з Вілейскага дзяржаўнага каледжа, **Валеры Апарык** з Вілейскай ЖКГ. А ў намінацыі "Сцэнічная творчасць" – драматычны гурток "Смехата" Ільянскага СДК, творчы калектыў Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы і **Сяргей Ёда** з "Буддэталяў", паведаміла намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Вызначылі таксама ўладальнікаў прызоў сімпатый гледачоў. У першай намінацыі гэта прадстаўнік "Зеніт-БелОМА" **Людміла Кабак**, у другой – творчы калектыў вілейскай гімназіі №1 "Логас".

Запіс выступленняў пераможцаў, іх вырабы пакажуць абласному журы.



**Алесь ВЫСОЦКІ**
alvy@tut.by

● У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Пасля праверкі УКБ ўзбудзілі справу за злоўжыванне ўладай

ВАЛОЖЫН

**Фізкультурна-аздараўленчы комплекс з-за зацягвання тэрмінаў ужо падаражэў на 30 мільярдаў, аплачаная будоўля на паперы і няякасная праца падрадчыкаў з-за слабага кантролю – за што дзяржкантроль прапаноўвае прыцягнуць вінаватых работнікаў УКБ да адказнасці.**



Фота забяспечана Маладзечанскім міжраённым камітэтам дзяржкантролю.

Фізкультурна-аздараўленчы комплекс у Валожыне.

Грубыя парушэнні заканадаўства, безгаспадарлівасць і нядбайнасць адзначылі падчас праверкі ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Валожынскага раёна.

Праверку зладзілі работнікі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю, упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, і "Беларусбанка".

### Праекты пыляцца, тэрміны перавышаюцца на чатыры гады

Падчас інвентарызацыі знайшлі 12 аб'ектаў, якія не сталі на ўліку. На іх выдаткавана больш за 47 мільярдаў рублёў.

Сярод іх пабудова артэзіянскай свідравіны, пад'язной дарогі, лініі электразабеспячэння, сетак водазабеспячэння ў вёсцы Бузуны, якія завершаныя ў кастрычніку 2015 года і абышліся ў шэсць мільярдаў рублёў. Гэтыя аб'екты ўвялі ў эксплуатацыю, спісалі з бухгалтарскага ўліку ўпраўлення капітальнага будаўніцтва. Але пасля не перадалі на баланс арганізацый, і аб'екты засталіся без гаспадара.

На момант праверкі ў прадпрыемстве лічыліся 54 незавершаныя аб'екты агульнай сумай больш за 92 мільярды рублёў. З іх 11 будавалі з перавышэннем нарматыўных тэрмінаў. Па некаторых перавышэнне дасягнула чатыры гады.

Праектна-каштарысная дакументацыя па 39 аб'ектах незапатрабаваная і пыліцца на паліцах УКБ, некаторыя з іх завершаныя сем год таму. Іх агульная сума 4,2 мільярда рублёў.

### Фізкультурна-аздараўленчы комплекс падаражэў на 30 мільярдаў

У межах дзяржаўнай праграмы "Чыстая вада" на 2011-2015 гады УКБ пачало абуладкаванне пяці аб'ектаў, з якіх цалкам не завершаны ніводны. Пры гэтым зацягванне тэрмінаў будаўніцтва звычайна цягне павелічэнне выдаткаў, часам у некалькі разоў.

Прывядзём да прыкладу работы на фізкультурна-аздараўленчым комплексе ў Валожыне. У ім запланаваны лазневы комплекс на 50 месцаў, басейн і спартзала. Гэты сацыяльна значны аб'ект у рабоце ад 2012 года, а падрыхтаваны толькі на 60%. І цана яго будаўніцтва ўжо павялічылася на 30 мільярдаў рублёў.

### За работу заплацілі, а зрабілі на паперы

Такое "распыленне" сродкаў звычайна тлумачаць аднолькава – "няма сродкаў". Але праверка паказала, што 100-працэнтнае фінансаванне пры адсутнасці кантролю ад заказчыка не гарантуе якаснае і своечасовае завяршэнне будоўлі.

За пабудову "інжынерных сетак і добраўпарадкаванне да квартала індывідуальнай забудовы ў вёсцы Кучкуны Валожынскага раёна" адна з камерцыйных арганізацый са згоды УКБ атрымала больш за 1 мільярд рублёў – усю неабходную суму за нібыта зробленую працу. Але аб'ект ад 2011 года так і не завершаны.

Калі пачалі разбірацца, то ўбачылі, што 80% работ на 800 мільёнаў рублёў фактычна зробленыя толькі на паперы, якая падпісаная і прадпрымальнікамі, і дзяржаўным прадпрыемствам.

З-за няякаснага тэхнічнага нагляду на іншых аб'ектах будаўніцтва падрадныя арганізацыі парушалі патрабаванні праектнай дакументацыі, працавалі няякасна і завысілі работы на агульную суму больш за 240 мільёнаў рублёў.

### Расследуюць факт злоўжывання ўладай

Па выніках праверкі Камітэт прапанаваў мясцовым органам кіравання прыцягнуць вінаватых да адказнасці, выправіць парушэнні і разгледзець магчымасць дабудаваць фізкультурна-аздараўленчы комплекс больш танна. Гэта магчыма за кошт аптымізацыі дарагіх матэрыялаў і работ, якія не ўплываюць на надзейнасць аб'екта.

Праваахоўныя органы па выніках праверкі ўзбудзілі крымінальную справу па факце злоўжывання ўладай.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.01 руб. | 28.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 20 461,00 | **21 365,00** |
| Еўра | 22 391,00 | **23 214,00** |
| Злоты | 4 994,62 | **5 127,83** |
| Расійскі рубель | 256,97 | **270,78** |
| Грыўня | 826,40 | **853,45** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 27.01** | | |
| Еўра | 22150/22550 | **22800/23350** |
| Долар ЗША | 20400/20700 | **21100/21500** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 20.01 | 27.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 800 | **28 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 40 600 | **41 900** |
| Селядзец, 1 кг | 52 000 | **52 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14 000 | **15 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **25 000** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **5 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 54 500 | **54 500** |
| Капуста, 1 кг | 5 900 | **5 500** |
| Морква, 1 кг | 7 500 | **6 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 30 000 | **-** |
| Лімоны, 1 кг | 29 900 | **36 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 900 | **27 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 26 900 | **27 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 30 000 | **30 000** |
| Ківі, 1 кг | 33 500 | **30 000** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **5 500** |
| Памідоры, 1 кг | 34 900 | **30 000** |
| Агуркі, 1 кг | 34 900 | **35 000** |
| Перац, 1 кг | 34 900 | **50 000** |
| Вінаград, 1 кг | 32 900 | **36 500** |
| Бананы, 1 кг | 23 500 | **24 000** |
| Хурма, 1 кг | 29 900 | **28 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 25 000 | **40 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 900 | **13 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | **25 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 5 000 | **5 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

● САНІТАРНАЯ СЛУЖБА

# Пратэрмінаваныя кілбасы, сокі і цукеркі знялі з продажу на святы

ВІЛЕЙКА

Падчас навагодніх святаў спецыялісты Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі абследавалі 43 аб'екты гандлю і грамадскага харчавання, рынкаў. Парушэнні выявілі ў 100% выпадкаў. Найчасцей фіксаваліся парушэнні правілаў тавараннага суседства і тэмпературнага рэжыму захоўвання.

Па матэрыялах праверак да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі шэсць службовых асоб на суму 11 мільёнаў 700 тысяч рублёў і адну юрыдычную на 21 мільён.

Вынеслі пяць прадпісанняў аб знішчэнні больш за 43 кілаграмы прадукцыі з абарачэння. Двух чалавек прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці.

Знялі з продажу кілбасы, сокі, цукеркі "Сталічныя-эліт" і іншую прадукцыю, у якой сышоў тэрмін прыдатнасці.

**Алена ЛІХАЧЭЎСКАЯ, доктар-гігіеніст Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

ЗДАРЭННІ

## Асуджаны да расстрэлу віляйчанін падаў скаргу ў Вярхоўны суд

ВІЛЕЙКА

**Асуджаны да смяротнага пакарання жыхар Вілейкі 20 студзеня накіраваў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд.**

Тэрмін абскарджвання прысуду заканчваўся 20 студзеня – бо прысуд на рукі мужчына атрымаў 11 студзеня.

– Як правіла, ад часу падачы скаргі да яе разгляду ў звычайных сітуацыях можа праходзіць да паўгода. Мяркую, дзесьці летам калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда будзе разглядаць скаргу, – патлумачыў каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" **Андрэй Палуда**.

Нагадаем, што ў Вілейцы 5 студзеня Мінскі абласны суд вынес смяротны прысуд 48-гадоваму віляйчаніну, які збіў да смерці сужытніцу.

Раней мужчыну ўжо прыгаворвалі да смяротнага пакарання за здзейсненыя ў 1989 годзе злачынствы. Але Вярхоўны суд па яго скарзе тады прысуд адмяніў. У выніку смяротнае пакаранне замянілі на 15 год калоніі.

Аддзел інфармацыі.

## У Івянцы сутыкнуліся "Таёта" і "Рэно" – кіроўцу адной з машын шпіталізавалі

ВАЛОЖЫН

**Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося каля дзевяці гадзін раніцы 25 студзеня на вуліцы 1 Мая ў Івянцы на Валожыншчыне.**

Па папярэдняй версіі, 34-гадовая кіроўца на аўтамабілі "Таёта-Пікнік" няправільна выбрала хуткасць руху, не справілася з кіраваннем і дапусціла занос машыны. Затым выехала на паласу сустрэчнага руху і сутыкнулася з аўтамабілем "Рэно-Меган Сцэнік", паведамілі ў Дзяржаўтаінспекцыі УУС аблвыканкама.

У выніку 53-гадовага кіроўцу "Рэно" з траўмамі шпіталізавалі. Кіроўца "Таёты" не пацярпела.

Па факце здарэння праводзяць праверку.

Аддзел інфармацыі.

## У Вілейцы дырэктар у дырэктара выцягнуў грошы з курткі

ВІЛЕЙКА

Два дырэктары прыватных прадпрыемстваў 9 студзеня выпадкова сустрэліся ў бары ў Вілейцы.

Раней яны былі знаёмыя, сталі адзначаць сустрэчу. Адзін з іх адышоўся ад століка. А ў другога, 30-гадовага віляйчаніна, на той момант узніклі фінансавыя цяжкасці. Ён скарыстаўся момантам і выцягнуў з кішэні курткі знаёмага два мільёны 800 тысяч рублёў, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

Пацярпелы спрабаваў самастойна разабрацца і вярнуць грошы, але не атрымалася. Ён 16 студзеня звярнуўся ў міліцыю. У дачыненні да віляйчаніна ўзбудзілі крымінальную справу за крадзеж.

– Падобныя выпадкі ў піцейных установах, дзе няма магчымасці забяспечыць належную ахову рэчаў, нярэдкія, – кажа Яўген Мягкоў. – Таму пры іх наведванні раіў бы больш адказна адносіцца да захавання сваіх рэчаў, не пакідаць іх без нагляду.

Аддзел інфармацыі.

## Шукаюць відавочцаў дарожна-транспартнага здарэння ля Вілейкі

ВІЛЕЙКА

Раённы аддзел Следчага камітэта Беларусі ўстанаўлівае магчымых відавочцаў дарожна-транспартнага здарэння.

Яно адбылося 1 сакавіка 2014 года прыкладна ў 19 гадзін 40 хвілін на 13-м кіламетры аўтадарогі "Пад'езд да Вілейкі ад аўтадарогі Р-28 Мінск-Маладзечна-Нарач", паблізу вёскі Каловічы. Аўтамабіль "Фіят-Брава" сутыкнуўся з веласіпедыстам.

Асобам, якім што-небудзь вядома пра абставіны ДТЗ, просьба паведаміць па тэлефонах **(8-01771) 5-60-83, 102**.

Вілейскі райаддзел Следчага камітэта Беларусі.



Кадр з фільма "Бой без правілаў".

РАССЛЕДАВАННЕ

# Збілі да смерці за просьбу даць цыгарэту

### Трое абвінавачаных у жорсткім забойстве маладзечанца паўстануць перад судом

МАЛАДЗЕЧНА

**Цела 50-гадовага мужчыны знайшлі ў цэнтры Маладзечна ўначы 20 ліпеня.**

Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрымалі трох жыхароў Маладзечна. Двум – па 23 гады, трэцяму – 24.

Расследаванне крымінальнай справы аб забойстве жыхара Маладзечна скончылі.

– Устанавілі, што пацярпелы па дарозе на работу на плошчы Старое Места ў Маладзечне сустрэў групу незнаёмых маладых людзей, – расказала афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – На просьбу даць яму цыгарэту падазраваныя з хуліганскіх намераў сталі збіваць мужчыну рукамі і нагамі. Удараў было не менш за 40.

**Ад атрыманых пашкоджанняў мужчына памёр на месцы.**

Хоць маладзечанцы адмаўлялі сваю віну, следчыя аднавілі карціну таго, што адбылося. А таксама выкрылі аднаго з фігурантаў у здзяйсненні яшчэ некалькіх злачынстваў. Учыніў ён іх пасля забойства.

Устанавілі, што 23-гадовы маладзечанец датычны да крадзяжу ў адным з інтэрнатаў горада. Яшчэ малады чалавек здзейсніў серыю ўгонаў легкавых аўтамабіляў у Мінскай вобласці. Ён адкрываў аўтамабілі адвёрткай, катаўся, а пасля кідаў у розных раёнах. Аўтамабілі вярнулі ўладальнікам. Маладзечанца раней ужо судзілі за маёмасныя злачынствы.

Двум падазраваным прад'явілі абвінавачанне за забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю групай асоб з хуліганскіх намераў. А раней судзімаму маладзечанцу, апроч гэтага абвінавачвання, інкрымінуюць яшчэ два артыкулы за ўчыненыя паўторна крадзеж і ўгон.

Абвінавачаныя заключаныя пад варту. Крымінальную справу перадалі пракурору для накіравання ў суд.

Аддзел інфармацыі.

КРАДЗЕЖ

# У Маладзечне хлопец ад магазіна "ўгнаў" вазок

МАЛАДЗЕЧНА

**Зрабіў ён гэта не са злоснага намеру, а для таго, каб гарантавана дабрацца дадому.**

Хлопца, які ішоў па вуліцах горада, мінакі бачылі каля 9 гадзін вечара.

Малады чалавек быў моцна выпіўшы і вазок дапамагаў яму трымацца на нагах.

Ад магазіна, што месціцца на Вялікім Гасцінцы, да месца, дзе яго спынілі супрацоўнікі міліцыі, хлопец прайшоў прыкладна паўтара кіламетра.

На вуліцы Францішка Скарыны хлопца пазбавілі яго "транспартнага сродку".

Намеснік начальніка Маладзечанскага райаддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце **Уладзімір Васількоў** гэту сітуацыю пракаментаваў так:

– Гэта справа для міліцыі настолькі дробная, што я нават не ведаю, што вам адказаць. Калі хлопца і затрымалі, то ніякай меры пакарання ў дачыненні да яго не ўжывалі. Маёмасць магазіна вярнулі па адрасе.

У магазіне, адкуль хлопец "пазычыў" вазок, пракаментавалі, што гэта далёка не адзіны выпадак:

– О, мы нашыя вазкі дзе толькі не знаходзілі! Вярталі з заправак з розных раёнаў горада. Але часцей за ўсё збіраем іх на невялікай адлегласці ад магазіна. Летам, канешне, звозяць часцей. Сочыць за колькасцю вазкоў ахова магазіна.

Наталля ТУР.

ТЭАТР

# Упершыню ў спектаклі без слоў паказалі шматаблічча кахання

МАЛАДЗЕЧНА

**У Маладзечна ўпершыню з гастролямі прыехаў заслужаны калектыў Вялікалускага драматычнага тэатра з Расіі.**

Госці паказалі гледачам пластычны спектакль у Палацы культуры ў чацвер, 22 студзеня.

У сваёй пастаноўцы "Вобразы" яны не расказалі, а паказалі, што такое каханне. Без слоў, толькі праз танец, жэсты і міміку акцёры расказвалі гісторыю пра пачуцці.

Галоўны герой спрабуе патлумачыць значэнне слова "каханне", і для гэтага малюе карціну свайго жыцця. Ён прыгадвае сустрэчы з рознымі жанчынамі. Кожная з іх увасабляе сабой пачуццё, якое з'яўляецца абліччам кахання – Гульню, Варожасць, Спакусу, Утрапёнасць, Запал, Жаль.

### З гукаў – толькі крык

Герой паказвае сваё жыццё ад нараджэння да моманту, калі ён адчуў каханне. І тут на сцэну выходзяць пачуцці. Праз празрыстыя фіранкі яны паказваюць сябе толькі праз рухі – у кагосьці рэзкія, у кагосьці плаўныя. Кожная з актрыс, якая ўвасабляла пачуццё, мела адметны індывідуальны характар, які прасочваўся праз характэрныя рухі і іх тэмп. Напачатку яны былі ў збалансаваных сяброўскіх адносінах, толькі Запал і Жаль заўсёды былі паасобку.

Спектакль адметны спосабамі, якімі героі распавядалі гісторыі. За ўвесь спектакль акцёры не вымавілі ні слова. Адзіным гукам быў крык галоўнага героя, калі ён убачыў, што застаўся адзін. Усе пачуцці аднachасова ўзаемадзейнічалі з ім, пакуль ён не паліčыў, што стала сумна і аднастайна, і не вырашыў абраць адно пачуццё. Яны паўсталі перад ім, і кожнае прапаноўвала нешта сваё. Ён абраў Запал, а астатнія яго пакінулі. Ён разам з Запалам зладзілі гуллівы танец, але пасля яго адчуў холад, а Запал не мог сагрэць. У выніку героя пакінуў і Запал.

Ён застаўся адзін. Іншыя пачуцці збеглі ад яго і ўсе паміж сабой пасварыліся. Жаль спрабаваў склеіць страчаную раўнавагу. Ён азірнуўся і ўбачыў, што нікога не засталося. Адно пачуццё замяніла сабой усе іншыя, і гэта парушыла яго ўнутраны баланс, герой пачаў вар'яцець.

У канцы гісторыі пачуцці змаглі стварыць больш камфортны стан, і герой прыйшоў у сябе. Але ён не змог дасягнуць той гармоніі, якую меў напачатку аповеду.

### Пластыка зачароўвала і распавядала гісторыю

Нягледзячы на бясслоўе акцёраў, эмацыйны складнік спектакля раўнадушным пакінуць не мог. На яго працавала не толькі гаворачая пластыка, але і музыка, і гульня са шматколерным святлом.

Гледачы падтрымлівалі апладысментамі акцёраў, асабліва захаплялі відовішчныя акрабатычныя трукі.

Спектакль зацягвае сваёй пластыкай, праз якую гісторыя пра розныя аблічы кахання атрымала выразныя сэнсавыя пасылы, якія акцёры даносілі гледачам. Пра тое, што варта быць асцярожным са сваімі жаданнямі і валодаць пачуццямі. Аддаўшыся з галовай Запалу, герой не змог вярнуць сваю эмацыйную раўнавагу, гэта стала яго расплатай. Кожнае пачуццё пакідае свой след і адыгрывае сваю значную ролю. І адчуваць сябе шчаслівым можна толькі тады, калі яны ў гармоніі.

### Гастралёры абяцалі вярнуцца

Гледачы былі актыўна ўключаныя цягам усяго спектакля, рэагавалі на дзеянні герояў. Спектакль сабраў аншлаг, а гледачы апладзіравалі стоячы.

Дырэктар Мінскага абласнога драмтэатра **Юры Крывенькі** напрыканцы мерапрыемства падзякаваў гасцям і адзначыў складанасць такой пастаноўкі. У адказ расіяне паабяцалі прыехаць з гастролямі яшчэ раз.

Вялікалукскі драматычны тэатр падчас гастроляў паказаў для маладзечанскіх гледачоў пластычны спектакль "Вобразы", камедыю "Тарцюф" і казку "Прынцэса на гарошыне і Свінапас".

**Багдан РАМАНОЎСКІ, вучань 10 класа СШ №2 Маладзечна.**



Фота luki.ru.



Фота luki.ru.

Падчас спектакля "Вобразы". Яго паставіў малады рэжысёр Вялікалукскага драматычнага тэатра Міхаіл Марозаў.

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Чытач: у шостым мікрараёне мала дзіцячых пляцовак, затое шмат месцаў для выгулу сабак

МАЛАДЗЕЧНА

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" прыйшоў ліст чытача **Міхаіла**. Ён жыхар шостага мікрараёна. Яму вельмі падабаецца, што раён новы, у ім шмат маладых сямей.

– Праз дарогу ад шостага мікрараёна ёсць зялёная зона, – піша чытач. – Але справа ў тым, што там няма пляцовак для дзяцей, элементарнай пясочніцы, лавачак, на якіх бы маглі адпачываць маладыя мамы, прысесці бабулькі ў цянёчку. Атрымліваецца, што ёсць толькі пляцоўкі для выгулу сабак.

Мужчына здзіўляецца, чаму камунальныя службы не могуць зрабіць лавачкі, паставіць пясочніцы – гэта ж нядорага.

Сітуацыю пракаментаваў намеснік дырэктара ўнітарнага прадпрыемства "Камунальнік" **Алег Глаткі**:

– Мне падаецца, што ў шостым мікраёне хапае дзіцячых пляцовак і лавачак. Калі новыя дамы пабудавалі, то ў дварах устанаўлівалі дзіцячыя пляцоўкі. Летась былі ўладкаваныя пляцоўкі для выгулу сабак. Калі мужчына лічыць, што дзіцячых пляцовак мала, ён можа пагаварыць асабіста са мной і прапанаваць, дзе іх трэба зрабіць.

Намеснік дырэктара "Камунальніка" штодзень ад панядзелка да пятніцы прымае наведнікаў з васьмі да паловы дзявятай.

Алег Глаткі адзначае, што 31 снежня 2015 года быў прыняты ўказ №535 "Аб прадастаўленні жыллёва-камунальных паслуг". Паводле яго, тэхнічнае абслугоўванне ўключае работы па ўтрыманні ў спраўным стане канструкцыйных элементаў пабудоў, інжынерных сістэм, падрыхтоўку жылых дамоў да эксплуатацыі ў вясенне-летні і асеннезімовы перыяды. Іншымі словамі, у пераліку засталіся тыя віды работ, якія непасрэдна ўплываюць на тэхнічны стан пабудовы і якія не могуць выканаць самі жыхары.

Што датычыцца дзіцячых пляцовак, цяпер камунальныя службы і мясцовая ўлада павінны толькі ўстанавіць, адрамантаваць, умацоўваць, фарбаваць іх. Усё астатняе – за кошт жыхароў дома.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫЯЗНЫ "КРУГЛЫ СТОЛ"

## "РГ" сустрэлася з вучнямі ільянскай школы

ВІЛЕЙКА

На "круглы стол" з вучнямі 3, 5 і 7 класаў і іх настаўнікамі Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца прыехалі галоўны рэдактар **Аляксандр Манцэвіч** і загадчыца аддзела інфармацыі **Зоя Хруцкая**.

Апошні раз "Рэгіянальная газета" была ў школе 25 верасня мінулага года. Цяпер на сустрэчу сабраліся тыя, хто не прысутнічаў той раз.

З аўдыторыі, дзе было некалькі дзесяткаў вучняў, гучалі самыя розныя пытанні, але ўсе яны былі вакол "Рэгіянальнай газеты" або прафесіі журналіста. Як стаць журналістам? Журналістамі нараджаюцца ці становяцца? Як журналісты бавяць вольны час? Ці можна пісаць пра сябе?..

Вучні распытвалі пра асаблівасці журналісцкай работы. Напрыклад, як сябе паводзіць, калі суразмоўца не хоча даваць інфармацыю. Журналістка дала параду "ўключыць" у сабе прафесіянала і кіравацца тым, чым інфармацыя важная для грамадскай супольнасці. Юным суразмоўцам было цікава, ці самае галоўнае для прафесійнага карэспандэнта журналісцкая адукацыя. На гэта вучні атрымалі адказ, што для журналіста галоўнае адрозніваць факт ад меркавання.

На развітанне вучням прапанавалі паразгадваць сімвалы раёнаў, якія "РГ" зашыфравала ў сваёй фірменнай паштоўцы.

Цікавасць да гасцей-газетчыкаў не пакінула вучняў і настаўнікаў і пасля завяршэння сустрэчы. Самыя дапытлівыя задавалі пытанні і пасля таго, як аўдыторыя апусцела.

### Чаму важна ладзіць сустрэчы для вучня

**Аксана Ярашонак**, педагог-арганізатар ільянскай школы:

– Мы запрашаем на сустрэчы з вучнямі прадстаўнікоў розных прафесій. Гэта элемент прафарыентацыі, з якой мы імкнёмся працаваць на высокім узроўні, прычым з першага класа.

На такіх сустрэчах дзеці вучацца паводзіць сябе на мерапрыемствах рознай накіраванасці. А ўменне адказваць і задаваць пытанні незнаёмым людзям дапамагае развіваць упэўненасць у сабе.

**Роза Шэрая**, кіраўніца музея "Вілейшчына літаратурная" ў ільянскай школе:

– Сустрэчы пашыраюць кругагляд. Дзеці знаёмяцца з рознымі прафесіямі. Яны дапамагаюць патрыятычнаму і эстэтычнаму выхаванню. Сустрэчы вучаць слухаць, успрымаць інфармацыю з боку. Настаўнікі перад імі кожны дзень, а на сустрэчах новыя людзі, і іх слухаюць уважліва.

А пасля мы пішам пра сустрэчы ў школьную газету, што развівае веданне мовы. Падзея становіцца прадметам абмеркавання – пра яе расказваюць адзін аднаму, абмяркоўваюць.

### Чаму важна ладзіць сустрэчы для работнікаў рэдакцыі

**Аляксандр Манцэвіч**, галоўны рэдактар "РГ":

– Калі мы хочам заставацца запатрабаванымі, сустрэчы такія павінны ладзіцца рэгулярна, каб глядзець адно аднаму ў вочы, каб ведаць, чаго хоча аўдыторыя.

Канешне, дзеці такога ўзросту не з'яўляюцца асноўнымі чытачамі нашай газеты. Але ўжо праз пару гадоў яны прыйдуць на наш сайт, а, магчыма, разгорнуць старонкі "Рэгіяналкі". І мы мусім ведаць, якой інфармацыі прагне новы чытач.

З іншага боку, вучні дзеляцца са сваімі бацькамі пра тое, што адбываецца ў школе. Магчыма, ужо сёння нехта з іх падпішацца на "РГ". Ілья – мястэчка, слаўнае сваімі традыцыямі і землякамі, вельмі важны населены пункт на карце нашага рэгіёна, і было б недаравальна, калі б мы на гэта не звярталі ўвагі.

Аддзел інфармацыі.
Фота на сайце rh.by.

ВЫСТАВЫ

## Грошы розных часоў паказваюць у музеі ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ

Выстава "Ад мінулага да сучаснага" адкрылася ў музеі народнай славы. На ёй прадстаўлены калекцыі манет і папяровыя банкноты з фонду установы.

Можна пабачыць грошы розных краін. Ёсць манеты Вялікага Княства Літоўскага, акупацыйныя знакі, якія хадзілі ў часы Першай сусветнай вайны, расказала выканальнік абавязкаў дырэктара музея **Наталля Бурак**.

Будзе працаваць выстава да 22 лютага.

Алесь ВЫСОЦКІ.

КНІГІ

# "Свая вёсачка, як родная маці"

## Віляйчанка прэзентавала кнігу пра родную вёску

ВІЛЕЙКА

**Прэзентацыя кнігі віляйчанкі Клаўдзіі Дубовік "Багданава – вёска нашага дзяцінства" прайшла 22 студзеня ў выставачнай зале імя Сілівановіча.**



Фота забяспечана Вілейскай раённай цэнтральнай бібліятэкай імя Ганны Новік.

Аўтограф ад Клаўдзіі Дубовік.

У кнізе сабраныя эсе творцы аб роднай вёсцы Багданава і суседняй – Хамянцы, іх жыхарах. Выдадзены зборнік намаганнямі раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік.

Да прэзентацыі падрыхтавалі выставу творчай спадчыны Клаўдзіі Дубовік "Мовай сэрца" – заняла яна ўвесь стэлаж.

Старшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Вольга Коласава** пазнаёміла з гісторыяй мясцін, што апісваюцца ў кнізе.

Клаўдзія Дубовік расказала пра сваю творчасць, пра тое, як працавала над кнігай.

– Даўно ўжо напісала апавяданне "Калодзеж" – плакала і я, і дачка гаспадара, пра якога расказваецца ў ім, – прыгадвае яна. – Затым у апавяданні "Шурачка" расказала пра маю маму, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны **Аляксандру Іванаўну Сургучову**. Потым адзін мужчына распавёў, што яны пражылі разам з жонкай 62 гады. Кажу: "Як 62?!". У выніку з'явілася апавяданне пра **Франца і Марыю Лапушынскіх**, якія жылі душа ў душу. Праз нейкі час падумала: "А чаму б не распавесці пра кожнага жыхара нашага краю?" Я напісала гэту кнігу, бо кожная сям'я блізкая майму сэрцу. Гэта ўсе мае аднавяскоўцы – яны героі па жыцці.

Завіталі на прэзентацыю знаёмыя і сябры па творчасці **Ніна Жвалеўская, Галіна Капцюг, Барыс Манцэвіч, Анатоль Капцюг, Віктар Кажура, Уладзімір Цанунін, Эдуард Мацюшонак** і іншыя. Многія з іх сказалі цёплыя словы пра аўтарку кнігі. Спяваў народны калектыў аўтарскай песні "Элегія" (кіраўнік – **Таццяна Захарыч**).

Прыйшлі начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама **Сяргей Паўлоўскі** і яго намеснік **Жанна Петух.** Сяргей Паўлоўскі ўручыў Клаўдзіі Дубовік падзяку за яе дзейнасць.

– Тут столькі цёплых слоў – такія словы ні на якія манеты не памяняеш, – дзеліцца Клаўдзія Дубовік.

Прыехалі на прэзентацыю вучні і настаўнікі Куранецкай сярэдняй школы на чале з дырэктарам **Марынай Цыркулеўскай** – у гэтай школе вучылася творца. Паказалі відэарад, дзе на здымках яна маладая – так што, расчулілі яе да слёз.

Клаўдзія Дубовік падзякавала ўсім, хто прычыніўся да выдання кнігі і прыйшоў на сустрэчу:

– Мяне радуе, што ёсць аддача – тое, што людзям спадабалася кніга, – кажа яна. – Хоць кожны дзень такія сустрэчы наладжвай: так прыемна ад атмасферы – душэўнай, адухоўленай. Як быццам ў 18 стагоддзе перанесліся – настолькі арыстакратычна, настолькі прачула ўсё было.

– Мяне ўразілі песні ў выкананні "Элегіі", пакладзеныя на вершы Клаўдзіі Дубовік. І яна мне адкрылася зусім па-іншаму, – дзеліцца загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Людміла Тонкавіч**. – Прэзентацыя прайшла як адна хвіліначка: так цікава было. Мяркую, не толькі мне.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ". Клаўдзія Дубовік** (Сургучова) нарадзілася 16 жніўня 1950 года. Радзіма – вёска Багданава. Жыве ў Вілейцы. Аўтар трох зборнікаў вершаў, двух зборнікаў апавяданняў. Ад 2005 да 2013 года напісала 30 паэм, у тым ліку "Фальварак Багданава" і "Мястэчка Куранец".

"Пра сваю вёску Багданава я магу гаварыць бясконца, бо яна як першае каханне. Можна шмат памяняць мясцін, але свая вёсачка, як родная маці, – самая любая, самая прыгожая і ўтульная.

Справа ў тым, што наша вёсачка стаіць на Кацярынінскім шляху, гэта азначае, што цэнтральная дарога направа ад усходу сонца вядзе на Мінск, а налева – на Санкт-Пецярбург. І сапраўды, дарогу тут масцілі дробнымі камянямі, нават я яшчэ памятаю, як, стоячы на каленях, работнікі драўлянымі малаточкамі падганялі камень да каменя, убіваючы іх у пясчанае палатно дарогі. Такая дарога называлася брукаванка. Яна была велічнай і моцнай, але ўжо ў 70-я гады паверх яе пачалі класці асфальт, які штогод трэба было рамантаваць ад выбоінаў.

Абапал шашы, так называлася цэнтральная дарога, яшчэ ў далёкія гады былі высаджаныя бярозы, якія вельмі ўпрыгожвалі дарогу і вёску. З часам яны пападалі ад магутных вятроў, пакуль апошняя з іх не ўпала ўжо ў нашы дні. Самае крыўднае, што ніхто і не падумаў адрадзіць былую прыгажосць, а гэта так проста: на месца старых бяроз трэба было пасадзіць новыя.

Яшчэ адна асаблівасць вёскі – гэта тое, што тут мала новых дамоў. Так склалася гістарычна, што першая вуліца пайшла ад шашы рэзка ўлева. Вуліца там вузкая, таксама брукаваная. Тут і сяліліся першыя работнікі фальварка Багданава. Аб гэтым сведчаць урослыя ў зямлю старэнькія хаты і ствалы магутных ліпаў, якіх і вокам цяжка акінуць, а не толькі абхапіць рукамі. Верхавіну адной такой старой ліпы нядаўна спілавалі, і застаўся магутны ствол. Вось на ім каторы год запар цяпер гняздуюцца прыгожыя буслы, як сімвал вечнасці зямлі беларускай, як сімвал доўгага жыцця нашай вёскі Багданава".

Урывак з кнігі
"Багданава – вёска нашага дзяцінства".

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**

**☎166**

Рэгіянальная газета. Rh.by ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2121 у выдатным стане. Т. (8-029) 6307110.*

• Опель-Вектра, 1999 г.в, 2,0 дызель, хэтчбэк, 5 дзв., серабрысты металік, фаркоп, у добрым стане. Т. МТС (8-029) 7005425.

• Рэно-19, 1995 г.в, 1,7 бензін. Т. (8-029) 8897733

• Сітраен-Джампер, 2003 г.в, пасажыр 7+1, сярэдняя база. Т. (8-029) 6307110.*

• Сітраэн-Саха, 1998 г.в 1,1Б, 3 дзв., зялёны, моцны кузаў, эканамічны рухавік. Рухавік і каробка без падцёкаў. Страхоўка і ТА да кастрычніка 2016 г. Цана 35 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5511138.

• ФВ-Гольф 3, 1996 г.в, 1,9 TДІ, універсал, колер серабро, добры стан. Т. (8-029) 6232553.

• Хёндай НГ-1, 2000 г.в, 2,5 дызель, мінівэн, вялікі і прасторны. Нядорага. Т. (8-029) 7626136.

• Запчасткі б/у да а/м ФВ-Т2, 1987 г.в, 1,7Д, грузавы, ёсць ўсё. Т. (8-029) 1294363, (8-029) 5651407.

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• **АЎТО** ў любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

• Рэно-Сцэнік, 1998 – 1999 г.в, МКП, можна з дэфектамі, да 35 000 000 руб. Т. (8-0290 8726517.*

### ПАСЛУГІ

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне (36/19/8,2), 1 паверх 5-панэльнага дома, з рамонтам. Т. (8-029) 6503925.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, нядорага. Т. МТС (8-033) 3084783.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Драздовіча, 4 (3/5,28,7/17,3/5,6). Т. (8-029) 1083495.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы (Незалежнасць), 2008 г., 60 кв. м. Т. МТС (8-029) 5080860.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. 1 Мая. Т. (8-029) 8745490, (8-033) 6380006.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 3/10, агул. пл. 53 кв. м, 840 000 000 руб., торг. Тэрмінова.Т. (8-029) 7536577.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ф.Скарыны, д.6, 50,6 кв.м, 783 000 000 руб, цэнтр горада. Т. (8-029) 1441876.*

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 3/5, агульная плошча - 51,2, жылая плошча - 30,3. Кладоўка, падвал, лічыльнікі. Цана дагаворная.Тел. (8-029) 6907385.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5783009.

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Гараж у ГК-32 г. Маладзечна (Фестывальны), яма, пліты перакрыцця і г. д. Тэрмінова. Т. (8-029) 7070885, (8-029) 7601272.*

• Дом драўляны, жылы, сайдынг. Т. (8-029) 7743686.

• Дом недабудаваны ў Вілейцы ці абмен на кватэру. Т. (8-025) 9791739.

• Дом у в. Насілава, вул. Гастэла, д.14, 20 сотак, газ, гараж, гаспадарчыя пабудовы, побач возера, царква, 165 000 000 руб. Т. (8-0176) 726385 (пасля 18.00).

• Дом у Маладзечне па вул. Грыцаўца, газ, выгоды, гараж, сад, агарод, піяніна. Т. (8-029) 2608541.*

• Кватэра ў Вілейцы, 2 паверх, гараж, падвал. Т. (8-029) 2521100.

### КУПЛЮ

• Дом, дачу, участак. Т. (8-029) 1810280.

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, раён вакзала. Т. (8-029) 3984061.

• 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Міру. Т. МТС (8-029) 5183125.*

• Дом (частку дома) у цэнтры Івянца Валожынскага раёна: цагляны, 2-павярховы, з усімі выгодамі, 50 км ад Мінска. Т. (8-029) 7775357, (8-044) 7900079.*

• Кватэру ў Вілейцы, паўтарачная з двух пакояў, у добрым стане, з усёй мэбляй, тэлефон. На працяглы тэрмін, р-н 26-га магазіна. Т. МТС (8-033) 3506906.

• У арэнду гандлёвыя месцы ў Вілейцы па вул. 1 Мая,10 (каля міні-рынку) . ІП Гарагашаў М.Ш. УНП 690298510. Т. МТС (8-029) 7665259.*

• У арэнду ізаліраванае памяшканне ў будынкуі магазіна г. Вілейка. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду ці прадам ізаліраванае памяшканне, 32 кв. м. ў цэнтры Маладзенчна. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Навагоднія карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць НД. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Фота і відэаздымка вяселляў, аблічбоўка відэакасет. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі, 20 тон, борт. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Грузаперавозкі, БУС,1,5 тон. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, ВЫРАЎНУЮ СЦЕНЫ.** Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, ардзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архіваязнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **МАЙСТАР НА ГАДЗІНУ**. Выезд майстара ў любы час сутак. Рамонт кватэр любой складанасці ў Вілейцы. ІП Жэлабковіч В.В. УНП 691179691. Т. (8-033) 6647521.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• **МІЖПАВЯРХОВЫЯ ДРАЎЛЯНЫЯ ЛЕСВІЦЫ ВЫРАБІМ ПАД ЗАКАЗ. УЛАСНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ. ВЫЕЗД НА РАЁН БЯСПЛАТНА**. ТАА "Аві-Арт" УНП 690686612. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7627933.*

• Печніка. Любое ацяпленне. ІП Ціханович А.С. УНП 191091444. Т. (8-029) 2599940, www.940.by.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.dy ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў. Выезд па Маладзечне і р-не. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.

• **СПІЛУЮ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ** паблізу ЛЭП, пабудоў. ІП Бельская С.І. УНП 690393208. Т. (8-029) 3383466.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723, (8-025) 9555719.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• Электрык да вашых паслуг**.** ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
Рассрочка без % 8-029-570-22-12, 8-029-905-63-93
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ - ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*



| **Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну: | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Наталля Арсеннева праз успаміны Пятра Краўчанкі

## Яна ўстала ў 5 раніцы, каб сабраць у лесе грыбы і пачаставаць гасцей. У 91 год

*Заканчэнне. Пачатак у №4.*

Скончыўшы гімназію, Наталля Арсеннева ў 1922 годзе выйшла замуж за афіцэра польскай арміі беларуса Францa Кушаля. Неўзабаве яго адпраўляюць у далёкі гарнізон на захад Польшчы, куды рушыла ўслед і яна.

У верасні 1939 года Чырвоная Армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Кушаль са сваім батальёнам быў узяты ў палон і апынуўся у Старабельскім лагеры для польскіх афіцэраў-ваеннапалонных.

Наталля Арсеннева пры садзейнічанні Максіма Танка ўладкавалася на працу ў вілейскую абласную "Сялянскую газету". Тут цікавы эпізод, пра які Пётр Краўчанка згадаў у гутарцы з ёй.

**– Што Вы можаце сказаць наконт легенды, якая звязаная з напісаннем верша "Сталіну"?**

– Усё гэта вельмі проста. Аднойчы наш рэдактар газеты (я забылася яго прозвішча, вельмі сімпатычны чалавек, між іншым) паклікаў нас: мяне, Танка, якраз тады Машара быў, таксама ўдзельнік, прыехаў проста так. Паклікаў і кажа: збіраемся пісаць ліст да таварыша Сталіна. Вы будзеце пісаць ад беларусаў. Трэба, кажа, тры раздзелы зрабіць. Адзін палітычны, другі нейкі там яшчэ, а трэці пра тое, што добрага далі нам Саветы. І мы пачалі дзяліць, пагадзіліся зусім ахвоча. Нават спрачаліся. Адзін казаў: я буду аб гэтым пісаць, другі – аб гэтым. Мы ўзяліся пісаць пра тое, як савецкая ўлада адносілася да дзяцей, як шмат было дзяцей-сірот, як былі заснаваныя прытулкі для дзяцей, як сталі іх вучыць. Гэта я на сябе ўзяла. І выканалі… Я толькі паспела 24 радкі напісаць, каб паказаць, ці так усё, як яны хочуць".

Але нават гэтая хвала Сталіну не дапамагла. У красавіку 1940 года Наталлю Арсенневу, як жонку польскага афіцэра, да таго ж, які знаходзіцца ў зняволенні, з двума дзецьмі высылаюць у Казахстан, дзе яна стала працаваць у калгасе. У маі 1941 года, дзякуючы хадайніцтву Саюза пісьменнікаў Беларусі, і асабліва Янкі Купалы і Максіма Танка, ёй дазволілі вярнуцца дадому.

Пачалася вайна. У акупаваным Мінску яна становіцца супрацоўніцай "Беларускай газеты". Рэдактарам яе быў вядомы калабарацыяніст Вацлаў Казлоўскі, якога потым забілі партызаны.

Пасля вайны, на той падставе, што Арсеннева працавала ў гэтай газеце, яе абвінавацілі ў супрацоўніцтве з акупантамі.

– Я ўважліва прачытаў усе вершы Наталлі Арсенневай, – кажа Пётр Краўчанка. – Але ні ў адным з іх няма нічога такога, што ўхваляла б фашысцкі рэжым. Больш за тое, у яе ёсць вершы, якія асуджаюць генацыд, ёсць верш, які прысвечаны расстрэлам яўрэяў у Валожыне. Тады гэта было вялікай адвагай. І потым яшчэ адзін момант.

**Я спытаў у яе: "Чаму Ваш зборнік "Сягоньня" ў 1944 годзе не быў надрукаваны ў Мінску?".**

"А таму, – адказала мне яна, – што немцы не дазвалялі. Яны не хацелі, каб выходзілі нашы кнігі, не хацелі, каб нашы людзі былі адукаваныя. А ў Вільні акупацыйны рэжым быў больш мяккі, таму мне сябры параілі, я сабрала грошы, паехала ў Вільню і там надрукавала".

З 1949 года і да самай смерці ў 1997 годзе Арсеннева жыла ў Злучаных Штатах Амерыкі. У яе паэтычнай творчасці дамінуючым становіцца патрыятычны матыў. Паэзія Наталлі Арсенневай стала крыніцай духоўнай сілы і нацыянальнай самасвядомасці для яе суайчыннікаў. Яе вершы ўсхвалялі чыстую і сапраўдную прыгажосць, цуды прыроды і кахання.

**– Спадарыня Наталля, – пытае Краўчанка, – ці былі часы, калі Вы не пісалі зусім?**

– Я пісала заўсёды.

**– Шмат Вашых вершаў сталі песнямі?**

– Так. Я шмат працавала калісьці ў гэтым напрамку. Любіла пісаць рамансы, лібрэта, нават тэксты на гатовую музыку. Беларуская мова вельмі песенная, музычная, напеўная.

З канца 1980-х гадоў творы Наталлі Арсенневай становяцца вядомымі і папулярнымі ў Беларусі. Яе верш "Малітва за Беларусь" ("Магутны Божа") нават прапаноўвалі зрабіць дзяржаўным гімнам.

**– Спадарыня Наталля, – спытаў Пётр Кузьміч у Арсенневай, – як Вы ацэньваеце сваё жыццё? Ці было яно шчаслівым?**

– Я не ведаю, ці шчаслівая я ці нешчаслівая. Можа, я шчаслівая тым, што ўмею пераважыць і не наракаю на долю. Ну, як здарылася, так здарылася… Пагаджаюся з лёсам. Я думаю, што гэта якраз самае галоўнае. Не заўсёды шчаслівы той, хто ўсё мае. Ён можа ўсё мець, а быць нешчаслівым. І наадварот, чалавек можа быць у бядзе, але ўмець усё пераважыць. Мне так здаецца.



Наталля Арсеннева з мужам Францам Кушалем у ЗША.

Фота naviny.by.

**Пагэтаму, можа, я і шчаслівая, бо, прымаючы ўсё, як ёсць, не бунтуюся. Мне куды горш, калі я бачу, як некаму баліць, чым калі мне самой баліць.**

– Калі мы і нашы суродзічы на Радзіме, – кажа Краўчанка, – больш шырока даведаюцца пра Ваш лёс, яны зразумеюць, што Вы чалавек з магутным духам, які змог выстаяць пры вельмі складаных гістарычных акалічнасцях. Вашы кнігі, творы вяртаюцца на Радзіму. Яны з удзячнасцю сустрэты ўсімі свядомымі людзьмі Беларусі.

Пазней Пётр Кузьміч звярнуўся да Наталлі Арсенневай з просьбай даслаць аўтографы да некаторых вершаў. Неўзабаве прыйшоў доўгачаканы адказ з вершамі "Чарнобыль", "Малачай", "Я суцяшаю на іншых, сябе", "Толькі вясна", "Магнолія". Пад кожным з іх стаяў подпіс паэткі. Цяпер, як дарагая рэліквія, яны знаходзяцца ў яго бібліятэцы.

– Мая апошняя сустрэча з Наталляй Арсенневай, – працягвае Пётр Краучанка, – адбылася ў лістападзе 1994 года ў Рочэстэры, дзе яна жыла. Папярэдне дамовіўшыся, прыехаў да яе разам з адным беларускім эмігрантам. Арсеннева была вельмі рада, знаходзілася ў добрым, вясёлым настроі. Яна запрасіла нас за стол і пачала частаваць рознымі стравамі. У ліку іншых былі рыжыкі.

Я ледзь не зваліўся з крэсла, калі яна сказала, што ўстала ў пяць раніцы, пайшла ў лес і спецыяльна для нас сабрала іх. Божа мой, падумаў я, жанчыне 91 год, якой жа жыццёвай энергіяй трэба валодаць, каб гэта зрабіць!

Наталля Арсеннева жыла з сынам і ўжо дастаткова дарослай унучкай. Калі ўнучка пастаявілася да нас ветліва, то сын вельмі насцярожана і глядзеў на нас "воўкам". Падчас размовы ён не прамовіў ніводнага слова, толькі слухаў. У ім адчувалася нейкая нядобразычлівасць да нас. Чаму? Не ведаю, можа быць таму, што ён даўно не быў у Беларусі, не меў зносінаў з людзьмі цяперашняга пакалення яго Радзімы. А Арсеннева і ўнучка размаўлялі на беларускай мове.

Чатыры гадзіны мы з ёй размаўлялі, прыйшоў час развітвацца. У канцы нашай гутаркі Наталля Арсеннева ўстае з-за стала і кажа: "Я хачу падарыць вам сваю фатаграфію". І з той жа энергіяй, бегам падымаецца па лесвіцы на другі паверх. Прыносіць фатаграфію і падпісвае: "Спатканіся з Вамі ўжо 2 разы, ці спаткаемся ў трэці? Дай Божа. Наталля Арсеньнева 27.11.1994 г.".

У маі 2004 года ў Вільні ў межах святкавання 15-годдзя Таварыства беларускай культуры у Літве, у Базыльянскіх мурах, дзе некалі змяшчалася Віленская беларуская гімназія, была адкрытая мемарыяльная дошка у гонар Наталлі Арсенневай.

Асноўным фундатарам работ па яе выкананні і арганізатарам устаноўкі быў Пётр Краўчанка. Ён жа тады ўзначальваў камітэт па святкаванні 100-годдзя Наталлі Арсенневай. Аўтарам гэтай дошкі стаў беларускі скульптар Аляксандр Шатэрнік. Гэта кавалак чырвонага граніту з бронзавымі накладкамі, на якім зроблена выява Наталлі Арсенневай ва узросце 40-45 гадоў. Унізе ідзе надпіс на літоўскай і беларускай мовах: "Тут, у будынку былой беларускай гімназіі, у 1919–1922 гадах вучылася вялікая беларуская паэтка Наталля Арсеннева (1903–1997)".

**Аляксандр МЕДЗЯЛЬЦОЎ,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**
**Загаловак рэдакцыі "РГ".**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Аварыя ў Маладзечне: выязджалі заднім ходам і не бачылі адзін аднаго

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 23 студзеня а палове першай дня на паркоўцы каля аднаго з гандлёвых цэнтраў.

28-гадовы мужчына на "Фольксвагене-Гольфе" выязджаў заднім ходам са стаянкі. Справа ад яго ў гэты ж час выязджала 48-гадовая жанчына на "Фольксвагене-Пола". У выніку машыны сутыкнуліся.

Супрацоўнікі міліцыі, якія прыбылі на месца здарэння, ацанілі механічныя пашкоджанні, высветлілі, хто вінаваты ў аварыі.

Кіроўцу аўто "Фольксваген-Гольф" выпісалі штраф за парушэнне правілаў манеўравання. Ён атрымаў адну базавую велічыню (210 тысяч рублёў).

Пра здарэнне расказаў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Міліцыя запрашае палепшыць закон

Міністэрства ўнутраных спраў запрашае абмеркаваць прапановы па лібералізацыі адміністрацыйнага заканадаўства.

Рэкамендацыі можна накіраваць па электроннай пошце: mneniemvd@mail.ru ці пакінуць на афіцыйным сайце МУС у рубрыцы "Палепшым закон разам".

Іх таксама прымаюць па адрасе: 220030, Мінск, вул. Гарадскі Вал, 4, упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў, з пазнакай "Законы".

Можна таксама паўдзельнічаць у адкрытым галасаванні на афіцыйным сайце МУС.

## ДАІ нагадвае пра правілы бяспекі на дарозе

У пятніцу, 29 студзеня, дзяржаўтаінспекцыя праводзіць адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "Памятаем, ведаем, трымаемся!".

Яго мэта – прапаганда прытрымлівання правілаў дарожнага руху ўсімі ўдзельнікамі.

Міліцыянеры будуць выступаць у працоўных калектывах, для кіроўцаў, ва ўстановах адукацыі і сярод курсантаў аўташкол.

**Паводле паведамлення ДАІ Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць зніклага жыхара Ашмянаў

Знік **Павілойць Андрэй Іванавіч**, які нарадзіўся 3 жніўня 1967 года (48 год). Ураджэнец і жыхар Ашмянаў.

Ад лістапада 2015 года дома не бывае, нiякіх звестак не дае, месца знаходжання невядомае.

**Прыкметы:** рост каля 175 сантыметраў, цёмныя валасы, цёмныя вочы, над левым вокам у раёне брыва пігментная пляма. Кульгае, ходзіць з мыліцай.

Быў апрануты па сезоне, у неахайнае адзенне.

Калі вам штосьці вядома пра месцазнаходжанне Андрэя Павілойця, просім паведаміць у Ашмянскі РАУС па тэлефоне **(801593) 4-44-42**, ці ў Ашмянскі РАСК: **(801593) 7-12-48.**



Зніклы Андрэй Павілойць.

**Паводле паведамлення Ашмянскага РАСК.**

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Пазбягайце небяспекі на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

АУСТ у сувязі з умовамі надвор'я звяртае ўвагу, што неабходна трымацца правілаў асабістай бяспекі на аб'ектах чыгункі.

Пасажырам у час пасадкі і высадкі варта трымацца за поручні. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі па пешаходных насцілах. І толькі тады, калі пераканаецеся, што не набліжаецца цягнік.

За пераход чыгункі ў неналежным месцы прадугледжаны штраф – ад 0,2 да 2 базавых велічынь (ад 42 да 420 тысяч рублёў).

**Паводле паведамлення Маладзечанскага АУСТ.**



**Пераможцы – каманда "Летуценнікі". Сяргей Ярук, Андрэй Кулік, Рома Дземідовіч, Дана Закрэўская, Ганна.**
Фота Тацціяны ЗАКРЭЎСКАЙ.

ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫЯ ГУЛЬНІ

# Уладальнік Хрустальнай савы правёў у Маладзечне гульню "Розум-шоу"

МАЛАДЗЕЧНА

**Першае ў гісторыі Беларусі "Розум-шоу" прайшло ў бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок" у нядзелю, 24 студзеня.**

Віктарына нагадвае вядомую гульню "Мазгабойня", толькі на беларускай мове. Праводзіў "Розум-шоу" беларускі знаўца ўладальнік Хрустальнай савы **Павел Свярдлоў**, які акрамя інтэлектуальных здольнасцяў прадэманстраваў даволі добрае пачуццё гумару. Узаемаадносіны гульцоў і вядучага былі вельмі дэмакратычныя і добразычлівыя.

У віктарыне бясплатна маглі прыняць удзел усе ахвотныя. 16 гульцоў адвольна падзяліліся на чатыры каманды: "Тры дубы", "Вавёркі", "Летуценнікі" і "Знічкі".

**Усе заданні першага тура так ці інакш былі звязаныя з творчасцю Нобелеўскага лаўрэата ў галіне літаратуры Святланы Алексіевіч.**

Гульня складалася з сямі тэматычных тураў, у кожным па пяць пытанняў. Як і ў тэлевізійнай гульні, на абмеркаванне давалася адна хвіліна. За правільны адказ гульцы атрымлівалі адзін бал, але даўшы разгорнуты адказ можна было атрымаць і два. Пытанні былі не з лёгкіх, на розныя тэмы: музыка, літаратура, гісторыя, кіно, спорт і нават мультфільмы. Напрыклад, ніхто з удзельнікаў не адказаў на пытанне пра цынк – трыццаты элемент табліцы Мендзялеева. Затое лёгка справіліся з актуальным сёння пытаннем пра курс долара ў Беларусі. Пераможцай "Розум-шоу" стала каманда "Летуценнікі", якая набрала 29 балаў. Усяго на адзін бал адсталі прадстаўнікі каманды "Тры дубы".

– На гульню я спачатку ішла з асцярогай, але камандная гульня надала ўпэўненасці. Пытанні сучасныя, якія патрабуюць нестандартнага мыслення. Цікава было шукаць лагічныя рашэнні. Як педагога цешыць тое, што наша моладзь размаўляе па-беларуску, праяўляе зацікаўленасць і ў выніку апынулася наперадзе, – падзялілася ўражаннямі адна з удзельніц настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі №10 **Ірына Рыбакова**.

Арганізатары гульні – супрацоўнікі Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча, – а таксама ўдзельнікі лічаць такое правядзенне вольнага часу добрай альтэрнатывай ляжанню на канапе каля тэлевізара.

– Радуе, што людзі рознага ўзросту, розных прафесій падтрымалі нашу ідэю і што моладзь паказала нядрэнныя веды. Асабліва ўдзячныя нашаму шматгадоваму чытачу **Паўлу Аляксееву** за дапамогу і салодкі прыз, – адзначыла загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Тацццяна Закрэўская** і запрасіла ўсіх ахвотных на наступную гульню, якая адбудзецца ўжо ў канцы лютага.

**Анастасія ХАЛАДКОВІЧ, школа журналістыкі "Маладзік".**

ЗДАРЭННІ

## Адразу падумалі, што салют – на Вілейшчыне згарэла лазня

ВІЛЕЙКА

Адбылося гэта ў вёсцы Навікі Любанскага сельсавета. Пра тое, што гарыць лазня на лецішчы, вілейскім выратавальнікам паведамілі пасля васьмі гадзін раніцы 24 студзеня.

Напярэдадні сюды прыехалі гаспадары, жыхары Мінска. Гаспадар нанасіў вады і цепліў лазню. Пасля сямі гадзін вечара пайшлі мыцца.

Раніцай мінчане прачнуліся ад таго, што нешта страляе. Адразу падумалі, што салют. Але калі паглядзелі ў акно, убачылі, што лазня ў агні. Адразу паведамілі выратавальнікам.

У выніку лазня згарэла. Дакладная прычына пажару ўстанаўліваецца. Папярэдняя прычына – парушэнне правілаў эксплуатацыі пячнога ацяплення, расказаў старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук.**

## Скралі 11 мяхоў збожжа, якое суседцы выдалі замест зарплаты

ВАЛОЖЫН

Гэтае ж збожжа двое з падазраваных дапамагалі жанчыне завезці і згрузіць у паветку.

Жыхарка вёскі Сівіца Валожынскага раёна працуе ў калгасе. У лік заробку ёй выдалі 33 мяхі збожжа.

Яна папрасіла двух суседзяў, каб яны дапамаглі прывезці мяхі і згрузіць.

Следчы валожынскага Следчага камітэта **Вячаслаў Беланові**ч падкрэслівае, што гаспадыня павету не замыкала.

У перыяд ад 18 да 24 снежня трое зладзеяў скралі трэць мяхоў. Сярод падазраваных двое суседзяў, якія да гэтага дапамагалі гаспадыні.

Паводле следчага, цана аднаго меха каля 82 тысяч рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**



**Вяселле ў Маркаве, 1918 год. У першым радзе першы злева сядзіць прадзед аўтара Афанасій, на заднім плане, адразу за гарманістам, пасярэдзіне, самы высокі, стаіць дзед Сцяпан. Ён толькі што прыбыў дадому з Петраграда. Каля яго, не выпадкова, з абодвух бакоў, – маладыя дзяўчаты. У царскім войску гэты просты сялянскі хлопец служыў ротным пісарам.**
Фота забяспечанае Сяргеем КАСМАЧОМ.

ГІСТОРЫЯ

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## Час Рэчы Паспалітай

*Працяг.*
*Пачатак у №3,4*

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

Вясной 1591 года, пасля смерці ўдавы, Леў Сапега дабіўся для свайго сына каралеўскага прывілею на ўладанне Маркаўскім і Мядзельскім дварамі.

### Вілейская воласць

У 1631 годзе ад невылечнай у тыя часы хваробы, сухот (туберкулёз), памірае сын Сапегі, і Маркаўскае староства разам з іншымі дварамі зноў вяртаецца ва ўладанне Льву Сапегу. Пасля смерці Сапегі ў 1633 годзе староства ненадоўга пераходзіць да яго малодшага брата Яна Казіміра, апошняга прадстаўніка роду Сапегаў. Але ў таго не было наследнікаў і ў далейшым, пасля смерці Яна Казіміра, Маркаўскае староства зноў адышло ва ўладанне караля.

У 1635 годзе новы кароль Уладзіслаў IV Ваза, які, між іншым, у 1610-1618 насіў тытул (Маскоўскага) цара, у адзнаку за выдатныя заслугі перад дзяржавай, асабліва ў чарговых войнах з Маскоўскім княствам (1609-1618, 1632-1634 гады), перадае староства стаўленіку Льва Сапегі, вядомай гістарычнай асобе Аляксандру Янавічу Корвін-Гасеўскаму, які, выконваючы абавязкі пасла ў Масковіі, кантраляваў сітуацыю на карысць Рэчы Паспалітай.

Але з-за дзяржаўных спраў займацца новым уладаннем яму не было часу, і староства было аформленае на яго жонку – Еву Пац-Гасеўскую, ад якой правы на ўладанне былі перададзеныя яе сыну – Вінцэнту Корвін-Гасеўскаму (1628-1662), падскарбію і палявому гетману ВКЛ. Сын у сваю чаргу аформіў староства на сваю жонку – нараджоную Магдалену Канапацкую.

Пасля смерці Вінцэнта ў 1662 годзе, яго жонка ў 1667-м уступіла частку староства пісару скарбнаму Яну Эйдатовічу, магчыма, у кошт пагашэння даўгоў.

Пасля смерці Эйдатовіча гэтая частка староства перайшла ва ўладанне Пацаў і затым была аформленая, як самастойная Вілейская воласць.

І хоць у выніку спадчынных раздзелаў і продажу асобных валасцей староства значна паменшылася, але ў пачатку 18 стагоддзя, напрыканцы шведскай вайны, яно ўваходзіла ў лік пяці найбольшых дзяржаўных уладанняў Ашмянскага павета, дзе мелася 169 гаспадарак.

### Шведы і законы тэрмадынамікі

У час апошняга вялікага паходу шведаў на Менск 8 лютага 1708 года ў Маркаве, а таксама ў Лебедзеве і Маладзечне спынілася 33-тысячнае войска караля Карла XII. Галоўная стаўка знаходзілася ў Смургонях. Прабылі яны там чатыры тыдні і шэсць дзён. Шведы адчувалі харчовую праблему: "Мы былі зноў у гэтай краіне, але зямля не родзіць столькі, колькі трэба нашаму войску. Нават калі б мы пазбаралі ўсю еміну гэтай краіны, яе ня стала б...".

У такіх неспрыяльных умовах шведскія войскі перайшлі да тактыкі татальнай канфіскацыі хлеба і іншых прадуктаў харчавання ў вёсках і шляхцянскіх маёнтках. Тады сярод простага люду і ўзніклі легенды пра чарадзейства шведаў, бо, ведаючы законы тэрмадынамікі, шведы лёгка знаходзілі схаваны ў ямы хлеб. Гэтыя ямы былі відаць, таму што са збожжа ішло цяпло і снег каля іх раставаў. Спачатку расейцы, затым шведы – даліся ў знакі маркаўцам гэтыя грабяжы.

У далейшым шведы 3-4 ліпеня 1708 года разграмілі пад Галоўчынам каля Магілёва 57-тысячную маскоўскую групоўку Пятра I.

**Пасля амаль дзесяцігадовага швэндання маскоўскіх і шведскіх войскаў па нашай тэрыторыі, унутраных супярэчнасцяў у дзяржаве і пачаўся незваротны працэс распаду Рэчы Паспалітай, што непасрэдна адбілася на далейшай гісторыі Маркава.**

Асобную старонку ў летапіс Маркаўскага староства ўнеслі прадстаўнікі шляхецкага роду Коцелаў. Вядомы шляхецкі род Коцелаў меў свой герб – "Пелікан". У далейшым гэты род валодаў староствам да 1812 года, амаль 129 год. Ад 1683 года сын Ашмянскага маршалка, затым Віцебскага і Троцкага кашталяна, падскарбія ВКЛ Самуіла Коцела – Міхал Казімір стаў Маркаўскім старастам і падкаморым Ашмянскім. Пазней ён быў Віцебскім і Троцкім кашталянам (начальнікам, ці камендантам абарончага збудавання, крэпасці, ад лац. castellum – крэпасць; адсюль – назва касцёла), а затым падскарбіем ВКЛ. Пасля смерці Міхала Казіміра у 1722 годзе, яго жонка Барбара выйшла замуж за інфлянцкага кашталяна Яна Неміровіча-Шчыта, і Маркаўскае староства перайшло ў яго рукі.

Сын Казіміра і Барбары Коцелаў, Тадэвуш, ажаніўся з Ганнай Тышкевіч і, паводле прывілея караля Станіслава Аўгуста, Маркаўскае староства пры садзейнічанні цесця ад 1766 года перайшло ў пажыццёвае ўладанне Тадэвуша Коцела. Гэтаму сведчыць адмысловы інвентар староства канцыляры скарбу ВКЛ ад 25 кастрычніка 1766 года.

Ад 1765 года ў Гародні пачала сваю дзейнасць Вайсковая камісія ВКЛ, якая з гэтага часу атрымлівала найвышэйшую ўладу над войскам. У мястэчку тады якраз размяшчалася 40-конная Маркаўская харугва Ашмянскага павета (татарская харугва ротмістра Крычынскага), палка Яго Каралеўскай Міласці пярэдняй стражы войска ВКЛ пад камандаваннем палкоўніка Мустафы Мурзы Бараноўскага.

**Працяг будзе.**



**Сяргей КАСМАЧ, Маладзечна.**

КАЛЯНДАР

## 30 СТУДЗЕНЯ

**95 гадоў** з дня нараджэння Івана Шамякіна (1921 – 2004), народнага пісьменніка Беларусі. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і на Гомельшчыне. Скончыў сямігодку і Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў, працаваў у Беластоку. У 1940–1945 у Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у баях пад Мурманскам, у вызваленні Польшчы, у баях на Одэры. Вучыўся на завочным аддзяленні Гомельскага педінстытута. У 1976–1980 гадах – першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. У 1980–1990 гадах – галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя". У 1963 як член дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце XVIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Дэбютаваў у час Вялікай Айчыннай вайны нарысамі і вершамі ў армейскай газеце "Часовой Севера". Аўтар раманаў "Глыбокая плынь", "У добры час", "Крыніцы", "Сэрца на далоні", "Снежныя зімы", "Атланты і карыятыды", "Вазьму твой боль", "Петраград – Брэст", "Зеніт". Цыкл з пяці аповесцей – "Непаўторная вясна", "Начныя зарніцы", "Агонь і снег" і "Пошукі сустрэчы" – аб'яднаны ў пенталогію "Трывожнае шчасце". Некаторыя яго раманы і аповесці інсцэніраваныя.

## 1 ЛЮТАГА

**605 гадоў** назад (1411) у Торуні (цяпер Польшча) падпісаны мір паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога, якім была завершана "Вялікая вайна" 1409-1411 гг.

**205 гадоў** назад (1811) нарадзіўся Рамуальд Зянькевіч (Завілейскі павет), беларускі фалькларыст, этнограф, археолаг, педагог.

**1991 год.** У Мінску памёр Станіслаў Шушкевіч, паэт, празаік, вязень савецкіх канцлагераў.

## 2 ЛЮТАГА

**1996 год.** У Мінску памёр Алесь Звонак, пісьменнік, перакладчык, вязень сталінскіх турмаў.

## 3 ЛЮТАГА

**90 гадоў** з часу выхаду (1926) у Заходняй Беларусі штотыднёвай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Беларускае слова" (выдавалася ў Вільні на беларускай мове да лютага 1928 г.).

**1931 год.** У Мінску, пасля допытаў у АДПУ, скончыў жыццё самагубствам Усевалад Ігнатоўскі, гісторык, першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**





У фармацэўта Віктара Дубіка ў асабістым тэлефоне запісаныя кантакты наведнікаў, каб наўпрост па тэлефоне паведаміць ім, што ў продажы з'явіліся патрэбныя ім лекі.
Фота Наталлі ТУР.

ПРАФЕСІІ

# Купляць падарункі ў аптэцы – гэта нармальна

МАЛАДЗЕЧНА

**Які падарунак можна купіць у аптэцы? Якія лекі самыя папулярныя 1 студзеня? Ці здаралася ратаваць наведнікам жыццё тут жа, у аптэцы? І як запомніць безліч назваў лекаў? Нашу цікаўнасць да прафесіі аптэкара задаволіў Віктар Дубік, фармацэўт з Маладзечна.**

Прафесія фармацэўта, прызнаецца Віктар, не такая простая, як здаецца на першы погляд. Шмат аднакурснікаў Віктара перавучваліся, таму што не маглі кожны дзень кантактаваць з людзьмі. А ў аптэку людзі прыходзяць розныя: капрызныя і патрабавальныя, дзіўныя і тыя, якія самі не ведаюць, чаго хочуць. Кожны дзень даводзіцца раіць што-небудзь ад таго, каб "не калола тут", "не балела вось тут", "ад галавы", "ад жывата".

У такіх выпадках Віктар раіць тыя лекі, якім давярае або якімі карыстаўся сам.

– У мяне мама таксама фармацэўт, таму я з дзяцінства памятаю, што ўсе сваякі і сябры сям'і раіліся з мамай, якія лекі прымаць.

Сам Віктар працуе фармацэўтам ужо 11 гадоў. І за гэты час, прызнаецца аптэкар, у яго тэлефоне нават з'явіўся спіс пастаянных кліентаў.

– Ну, гэта натуральна. Бывае, людзі чакаюць нейкага пэўнага лякарства. А яго няма. І каб не хадзіць у аптэку кожны раз, прасцей патэлефанаваць. Пытаюцца і пра цану, каб ведаць, колькі грошай з сабой браць. Ну, і тэлефануюць параіцца, што можна прыняць ад галавы. Раю.

> **Самы дарагі прэпарат, які прадаецца сёння ў аптэцы, – лякарства для суставаў. Каштуе яно 2 мільёны 600 тысяч рублёў.**

Асобнай тэмай у працы аптэкараў заўсёды былі назвы лекаў.

– А што ж вы хочаце, назвы такія, што сам язык зламаеш. Ну і, вядома, ёсць смешныя назвы. Часцей за ўсё кaплі "Таўфон" людзі называюць "Тайфун". А як вам назва: " Бронхіпрот"? Або "Стоптусін" ці мазь "Хонда".

### Самыя папулярныя лекі 1 студзеня – мінералка

І гэта не жарт. Фармацэўт прызнаецца, што менавіта 1 студзеня рэдкія наведнікі пыталіся ў аптэцы мінералку.

– Скардзіліся на галаўны боль. Прасілі актываваны вугаль, сродкі ад страўніка.

Але часцей за ўсё пакупнікоў у аптэцы становіцца больш менавіта перад святамі.

– Многія насамрэч стараюцца набыць лекі ад страўніка да святаў. А вось на Дзень усіх закаханых часцей за ўсё купляюць, не, не тое, што вы падумалі, а касметыку.

Увогуле купіць падарунак у аптэцы, лічыць Віктар, цалкам нармальна. І трэба гэта рабіць.

– Перад Новым годам актыўна куплялі танометры. А што, падарунак карысны, не танны. Дораць глюкометры, вітаміны.

> **Самы пік наведвальнасці аптэкі выпадае на 11:00 – час, калі людзі ідуць з паліклінікі.**

### Даводзілася прыводзіць людзей у прытомнасць

Здараліся ў практыцы Віктара і такія выпадкі, калі людзі гублялі ў аптэцы прытомнасць.

– Было такое, што дзяўчына страціла прытомнасць, упала акурат на вітрыну. Даводзілася ратаваць людзей ад эпілептычнага прыступу, і не адзін раз.

Бывае, у аптэку заходзяць і пастаянныя наведнікі.

– Заўсёды няёмка сустракацца ў горадзе вачыма з чалавекам, які прыходзіць па "Віагру", – жартуе Віктар. – Але калі ён зноў і зноў па яе вяртаецца, значыць дапамагае.

Прыходзяць у аптэку і школьнікі за сродкамі "індывідуальнай абароны".

– У мяне сын вучыцца ў школе. Шмат каго з яго школы я ведаю ў твар. Дзіўна назіраць, як школьнікі прыходзяць па прэзерватывы, потым па тэсты на цяжарнасць. Саромеюцца, але некаторыя ўсё ж пытаюцца, які сродак лепшы. Стараюся дапамагаць, раіць.

Асобны кантынгент аптэк – гэта наркаманы.

– На жаль, але наркаманаў раёна я таксама ведаю ў твар. І тыя лекі, па якія яны прыходзяць, таксама выдаюць іх. А вось алкаголікаў ад аптэкі ўдалося адвадзіць:

– Проста перасталі браць на рэалізацыю тыя лекі, якія алкаголікі куплялі як вадкасць, у якую ўваходзіць 95% этылавы спірт. У фармацэўтаў цяпер надыходзіць гарачая пара – час прастуды, насмарку і кашлю.

– Мы да сезона вострых рэспіраторных захворванняў гатовыя. Вылечым усіх.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

ЗДАРОЎЕ

## Чытач пытаецца: "Чаму два дні трэба, каб атрымаць даведку ў вілейскай паліклініцы?"

ВІЛЕЙКА

**Чытач Яўген з вёскі** Жары на Вілейшчыне сутыкнуўся з такой праблемай: "Цяпер пры паступленні на работу трэба медыцынская даведка. Ды і кіроўцам яна неабходная. Вось каб атрымаць даведку ў вілейскай паліклініцы, трэба сама мала два дні пры ўмове, што аналізы падрыхтаваныя загадзя. Так у майго сына атрымалася. Засумняваўся, спытаў у суседа, які працуе кіроўцам. Дык і ён сказаў, што за два дні ледзь уклаўся".

Яўген пытаецца: "Чаму так доўга? Мяне яшчэ цікавіць, як праходзяць камісію чыноўнікі, бо яны таксама кіроўцы?"

Загадчыца паліклінікі Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы **Таццяна Рамэра** расказала, ад чаго залежыць хуткасць атрымання медыцынскай даведкі:

– Неабходна, каб дактары агледзелі чалавека, ён здаў патрэбныя аналізы, прайшоў флюараграфічнае абследаванне. Разумееце, на ўсё гэта трэба час. Таму два дні і выходзіць. Па ўсіх дакументах нам даецца тры дні на выдачу такіх даведак. Некаторыя прыязджаюць – калі маюць на руках вынікі абследавання, аналізаў, то праходзяць усё і за адзін дзень. А калі ў чалавека нічога няма і ўсё трэба прайсці, то за адзін дзень не паспее.

Шмат што залежыць ад таго, куды чалавек уладкоўваецца на працу.

– Калі гэта харчовая прамысловасць, дзіцячы садок ці звязаная са шкоднымі ўмовамі праца, то там дастаткова вялікая камісія, трэба здаць шмат аналізаў. А калі чалавек уладкоўваецца вартаўніком, то, зразумела, меншая.

### Што зрабіць кіроўцу, каб атрымаць даведку хутчэй

Патлумачыла Таццяна Рамэра, што кіроўцу трэба ўзяць даведкі ад псіхіятра, нарколага, што ён не знаходзіцца на ўліку, а таксама тэрапеўта.

Калі чалавек быў у тэрапеўта на працягу года, то яму пішацца выпіска аб стане здароўя, дзе ўказваецца яго дыягназ. Але калі чалавек пяць год у паліклініцы не паказваўся, то для атрымання выпіскі яго трэба абследаваць, каб доктар мог вызначыць яго дыягназ і стан здароўя.

– Калі чалавек не быў доўга ў тэрапеўта, то яму спатрэбіцца некалькі дзён на абследаванне, – кажа Таццяна Рамэра. – У нас камісія для кіроўцаў праходзіць у аўторак і чацвер. Калі ў чалавека ўсе даведкі на руках, то ён можа прайсці яе за пару гадзін.

Па другім пытанні чытача наконт чыноўнікаў загадчыца паліклінікі адказала так:

– Камісію праходзяць усе, бо ў старшыні камісіі павінны быць усе даведкі. Дзяржаўтаінспекцыя правярае ў нас іх наяўнасць.

На заканчэнне Таццяна Рамэра дала такую параду:

– Для таго, каб камісію для атрымання даведак прайсці максімальна хутка, трэба праходзіць дыспансерызацыю і паказвацца свайму тэрапеўту хаця б раз на год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЗДАРЭННІ

## 15-гадовыя не маглі адрамантаваць матацыкл, таму скралі ў знаёмага

ВАЛОЖЫН

У аднаго з хлопцаў, жыхара Валожынскага раёна, зламаўся матацыкл. Спачатку ён спрабаваў парамантаваць яго, але не атрымалася. Падумаўшы, ён успомніў, што ў знаёмага яго сябра ёсць такая ж самая мадэль матацыкла.

Сабраўшыся разам, хлопцы вырашылі скрасці матацыкл. Зрабілі ўвечары, каб ніхто не бачыў. Ажыццявіць гэта было няцяжка: матацыкл стаяў на двары, накрыты плёнкай.

Крадзеж раскрылі раніцай.

Заўважыла прапажу маці знаёмага хлопцаў. Каля дзесяці вечара яна пайшла ў гарадскую лазню, матацыкл стаяў на месцы. Калі вярталася апоўначы, яго не было. Спыталася ў сына, ці не пераставіў, аказалася, што не. Адразу заявіла ў міліцыю.

Здарэнне адбылося 12 снежня, цяпер узбудзілі крымінальную справу. Хлопцам пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

Пра здарэнне расказаў старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**.

**Аддзел інфармацыі.**

● ТЭМА НУМАРА

# Эксперты: пабудова свінакомлексу каля Соўлава не адпавядае патрабаванням заканадаўства

**Скончылася грамадская экалагічная экспертыза праектнай дакументацыі па аб'екце "Будаўніцтва свінагадоўчага комплексу на 100 тысяч галоў у год і пад'язных дарог да яго ў раёне вёскі Соўлава Маладзечанскага раёна".**


Фота Настассі РОЎДЫ.

Ірына Ярук (злева) збірае подпісы супраць будаўніцтва свінакомплексаў.

Яна доўжылася ад 23 снежня 2015 года да 21 студзеня 2016 года. "Рэгіянальная газета" друкуе асноўныя пункты экспертызы. Дакумент цалкам чытайце на сайце rh.by.

### Асноўныя высновы грамадскай экалагічнай экспертызы:

**1.** Разлікі выкідаў забруджвальных рэчываў пры ўтрыманні, вырошчванні, адкорме свіней выкананы з хібамі.

У апісанні ўказана, што адкормачны маладняк свіней будзе ўтрымлівацца ў свінарніках змяшчальнасцю 1 920 галоў кожны. Пры гэтым выкіды ад гэтых свінарнікаў разлічвалі на 1 800 галоў.

**2.** Недастаткова ўказана лагун для сцёкаў, каб змясціць жыжу, якая ўтворыцца ад запланаванай колькасці жывёл.

**3.** Па праекце, пасля ачысткі дажджавыя воды скідваюцца ў перасыхаючае рэчышча ракі Бярозка. Ад гэтага мяркуюцца значныя змены гідралагічнага рэжыму ракі, а ацэнка магчымых наступстваў не праведзеная.

**4.** У справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе не раскрытыя і не прааналізаваныя навейшыя тэхналогіі, якія будуць выкарыстаны пры будаўніцтве свінакомплексаў. І якія гэтыя тэхналогіі?

**5.** Сістэма ачысткі вадкага гною ў лагунах не можа знаходзіцца на тым месцы, які прапануецца ў праекце. Неабходна вытрымаць санітарны разрыў у два кіламетры ад жывёлагадоўчых памяшканняў і жылой забудовы.

**6.** Праекціроўшчыкі ацанілі фонавае забруджванне атмасфернага паветра ў раёне Соўлава і значна аддаленых пунктаў – Адамавічы і Мойсічы. Але не ацанілі само забруджванне.

У зоне планаванага свінакомплексу размешчаныя і іншыя населеныя пункты: Ленкаўшчына, Трэскі, Клочкава Маладзечанскага раёна, а таксама Рудзеўшчына і Высокае Валожынскага раёна. Аднак па іх няма інфармацыі па стане атмасфернага паветра.

**7.** У раздзеле "Паверхневыя воды" найбольшая ўвага нададзеная рацэ Нёман, мінімальная адлегласць да якой ад пляцоўкі будаўніцтва каля 60 кіламетраў. Якасць водных аб'ектаў ахарактарызаваная ў цэлым для краіны і для басейна ракі Нёман.

Але каля Соўлава працякае рака Бярозка і ёсць возера на захадзе, якія ўпадаюць у басейн Нёмана. Іх праекціроўшчыкі не ацэньваюць.

**8.** У раздзелах "Геалагічнае асяроддзе і падземныя воды" і "Рэльеф і геамарфалагічныя асаблівасці раёна" вельмі многа інфармацыі ў цэлым па краіне і па Мінскай вобласці, што ніяк не характарызуе непасрэдна тэрыторыю пабудовы.

Якасць падземных вод ахарактарызавана па дадзеных Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі без пэўнай прывязкі да тэрыторыі. У выніку немагчыма ўстанавіць якасць падземных (грунтавых) вод побач з пляцоўкамі будаўніцтва свінакомплексу. Гэта з'яўляецца асабліва актуальным для меркаванага ўздзеяння на грунтавыя воды.

**9.** Няма ацэнкі прыроднай абароненасці падземных вод у раёне размяшчэння гнаясховішчаў.

**10.** У непасрэднай блізкасці ад пляцовак будаўніцтва знаходзяцца землі Маладзечанскага лягсаса. Аднак адсутнічае характарыстыка парод і ўзросту лесу, яго стан.

**11.** У раздзеле "Прыродныя комплексы і прыродныя аб'екты" дадзеная характарыстыка па Маладзечанскім раёне, але няма інфармацыі па Валожынскім раёне, адлегласць да якога ад пляцоўкі рэпрадуктара менш за 200 метраў.

Спецыялісты, якія ўдзельнічалі ў грамадскай экалагічнай экспертызе, упэўненыя, што рэалізаваць праект без унясення карэктыў немагчыма.

Яны робяць выснову, што будаўніцтва свінагадоўчых комплексаў на 100 тысяч галоў у раёне вёскі Соўлава Маладзечанскага раёна не адпавядае патрабаванням заканадаўства ў галіне ахоявы навакольнага асяроддзя па сукупнасці недахопаў праектнай дакументацыі.

Яны настойваюць на дапрацоўцы справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе. І на тым, што пасля гэтую дапрацаваную справаздачу неабходна вынесці на грамадскае абмеркаванне.

**Паводле заключэння грамадскай экалагічнай экспертызы грамадскага аб'яднання "Экадом".**

### Эксперт пра значнасць лагун

Адзін з экспертаў, **Уладзіслаў Юркоў**, які ўдзельнічаў у экалагічнай экспертызе, патлумачыў значнасць лагун пры будаўніцтве.

– Згодна з праектам, гнаявыя сцёкі, жыжа, будуць захоўвацца ў адкрытых сховішчах-лагунах на працягу сямі месяцаў, а пасля гэтага выліваццa на палі, – тлумачыць спецыяліст. – Згодна з санітарнымі нормамі, абеззаражванне гною ад свінагадоўчых прадпрыемстваў складае 12 месяцаў. Адпаведна, калі праект будзе рэалізаваны ў цяперашнім выглядзе, на плошчу 3200 гектараў будуць вылівацьр неабеззаражаную гнаявую жыжу.

Як адзначае спецыяліст, такая жыжа характарызуецца інтэнсіўным забруджаннем біягеннымі і арганічнымі рэчывамі, патагеннай (хваробатворнай) мікрафлорай і яйкамі гельмінтаў, якія вельмі доўга жывуць (ад 20 да 475 дзён), кіслым асяроддзем.

– У свіным гноі ёсць аміяк – мінеральны азот – у колькасці, якая перавышае патрэбу глебы і раслін, "выпальвае" расліны, – дадае Уладзіслаў Юркоў. – Пры недастатковым абеззаражванні гной здольны выклікаць эрозію і дэградацыю глебы, забрудзіць яе цяжкімі металамі (меддзю, цынкам), забрудзіць падземныя воды, бліжэйшыя вадаёмы, атмасферу выкідамі серавадароду і аміяку. Свежы гной утрымлівае вялікую колькасць складанай арганікі, якая працяглы тэрмін раскладаецца ў глебе.

Таксама няправільна разлічаныя выкіды забруджвальных рэчаў у атмасферу, што пагаршае сітуацыю.

### Пра значнасць грамадскіх абмеркаванняў

Мы распыталі ва Уладзіслава Юркова, наколькі важнымі ён лічыць грамадскія абмеркаванні і як яны паўплывалі на дакументы, падрыхтаваныя ААТ "Вялес-Міт" да экалагічнай экспертызы.

– Згодна з заўвагамі, былі адкарэкціраваныя аб'ёмы вытворчых сцёкаў, – дзеліцца эксперт. – Аднак, на жаль, не ў дастатковай ступені. У тры з паловай разы быў павялічаны аб'ём водаспажывання, у тры разы павялічаны аб'ём лагун з вадкім гноем.

А вось на пытанне мясцовага жыхара, што будзе з гнаявымі сцёкамі, калі пойдуць інтэнсіўныя лівні, атрымалі дастаткова спрэчны адказ: "У выпадку выпадзення значнай колькасці ападкаў гнаявыя сцёкі разбавяцца да бяспечнай для навакольнага асяроддзя канцэнтрацыі".

### Што "не зможа" зрабіць сям'і пасля будаўніцтва свінакомплексу

Уладзіслаў Юркоў – жыхар Валожыншчыны. Месца, у якім ён жыве, будзе межаваць з мяркуемым свінакомплексам. Таму для яго вельмі важна, каб экалагічная сітуацыя не была сапсаваная будаўніцтвам.

**– Я не супраць свінакомплексаў, калі гэта не прамысловы гігант на 100 тысяч галоў у год, які непазбежна нанясе ўрон навакольнаму асяроддзю, а маленькая ферма, пабудаваная па ўсіх экалагічных нормах, – разважае Уладзіслаў.**

Ён адзначае, якія наступствы будаўніцтва будзе мець для яго сям'і.

– Мы не зможам, як хацелі, гадаваць дзяцей на чыстым паветры, піць чыстую ваду. Не зможам развіваць агратурызм, як планавалі, бо ніхто не паедзе адпачываць у месца, дзе смярдзіць свіннямі. Мы не зможам хадзіць летам на возера, якое месціцца ў будучай санітарна-ахоўнай зоне, зімой катацца там на каньках, бо гэта ўжо не будзе задавальненне, – разважае мужчына пра мінусы будаўніцтва.

Жыхары вёсак Лохаўшчына, Кашчэлічы, Высокае, Рудзеўшчына, Пекары, Соўлава гатовыя змагацца супраць будаўніцтва.

Нядаўна жыхары Беразінскага і навакольных вёсак даслалі эколагам больш за 500 подпісаў супраць будаўніцтва.

## Над экспертызай працавалі пяць спецыялістаў

**Рыгор Фёдараў**, юрыст, спецыяліст у галіне экалагічнага права, мае вышэйшую юрыдычную адукацыю, стаж работы – 14 гадоў.

**Наталля Блышчык**, інжынер-хімік-эколаг, спецыяліст па рабоце з адходамі, стаж работы – 6 гадоў.

**Наталля Парэчына**, біёлаг, мае вышэйшую біялагічную адукацыю, стаж работы – 26 гадоў.

**Уладзіслаў Юркоў**, магістр навук у галіне геалогіі.

**Клара Раманава**, вядучы эксперт Федэральнай службы па наглядзе ў сферы прыродакарыстання Федэральнай дзяржаўнай бюджэтнай установы "Цэнтр лабараторнага аналізу і тэхнічных вымярэнняў па Прыволжскай федэральнай акрузе"; спецыяліст у галіне ачысткі прыродных і сцёкавых вод і навакольнага асяроддзя і прыродакарыстання, мае вышэйшую экалагічную адукацыю, стаж работы – 34 гады.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

НАВІНЫ

## Два розныя таймы ў матчы "Ашмянаў" з "Віліяй"

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У матчы чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе 23 студзеня сышліся каманды рэгіёна: "Ашмяны" прымалі смаргонскую "Вілію".

Першым тайм прайшоў у барацьбе: ашмянцы саступілі ў ім з мінімальным лікам 1:2.

– Яны ўмацаваліся чацвёркай футбалістаў ФК "Ашмяны", які ў мінулым сезоне гуляў у другой лізе чэмпіянату Беларусі па футболе, – тлумачыць гулец "Віліі" **Віталь Будай**. – У першым тайме нядрэнна нам супрацьстаялі, нават выйгравалі 1:0. Але ў другім тайме мы прыбавілі і забілі сем мячоў.

Канчатковы вынік 9:1 на карысць "Віліі". Лепшым гульцом у "Ашмянах" прызналі **Дзмітрыя Купнеўскага**, а ў "Віліі" – **Захара Захарэвіча.**

"Навагрудак" дома абыграў "Меліяратар" з Астраўца 15:7.

У групе "Поўнач" "Вілія" ідзе на другім месцы. Каманда скарацiла адставанне ад лідара, "Легенды" з Іўя, да трох ачкоў. "Ашмяны" займаюць трэцяе месца, "Меліяратар" апусціўся на пятае месца.

## Маладзечанцы выйшлі ў фінал Кубка вобласці па міні-футболе сярод ветэранаў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Прайшлі папярэднія гульні Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе сярод ветэранаў. Прадстаўнікі рэгіёна гулялі ў Маладзечне 23 студзеня.

Маладзечанцы пераканаўча выйгралі ў вілейскай каманды – лік у матчы 9:1.

– Маладзечанцы аказаліся мацнейшыя. Каб наш варатар не выручаў, то маглі б і болей галоў прапусціць, – расказаў прадстаўнік вілейскай каманды **Ігар Шабан.**

Камандзе з Клецка з-за няяўкі залічылі тэхнічнае паражэнне 0:3.

Маладзечанцы выйшлі ў фінальную частку спаборніцтваў, дзе пазмагаюцца з пераможцамі яшчэ чатырох груп.

## Правядуць турнір памяці Дзяніса Шульгача

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

Віляйчане хочуць правесці турнір па міні-футболе памяці **Дзяніса Шульгача** – маладога вілейскага міліцыянера і футбаліста, які трагічна загінуў год таму.

Папярэдне намечаны турнір на 31 студзеня. Правесці яго мяркуюць у Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры.

Збіраюцца ўдзельнічаць чатыры каманды.

## У Мядзеле стартаваў чэмпіянат раёна па міні-футболе

МЯДЗЕЛ

У ім удзельнічаюць 10 камандаў. Сярод іх – тры дэбютанты: "Спадарожнік", ФК Union Naroch і каманда Крывіцкага спецыяльнага ПТВ №3 закрытага тыпу.

Гульні праходзяць па серадах і пятніцах у мясцовым фізкультурна-аздараўленчым цэнтры. Каманды згуляюць паміж сабой, а потым барацьбу за медалі працягне лепшая чацвёрка.

У першым туры 20 студзеня два матчы скончыліся з разгромным лікам. Каманда "ІП Мядзел" выйграла ў прадстаўнікоў аддзела адукацыі, спорту і турызму 10:0, а каманда райвыканкама разграміла ФК Union Naroch 11:0.

Затое барацьба была ў матчы паміж камандамі "Юнацтва" з Мядзела і "Зубраня". Мядзяльчане ў першым тайме выйгравалі ў леташніх пераможцаў чэмпіянату 3:1.

– Але ў другой палове другога тайма гульцы "Зубраня" перахапілі ініцыятыву. У вароты "Юнацтва" ўляцелі два аўтаголы, і матч скончыўся з лікам 7:4 на карысць "Зубраня", – расказаў дырэктар цэнтра **Андрэй Русак**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Міліцыянеры спаборнічалі на лыжні

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

На лыжна-біятлоннай базе "Заечая паляна" ў Лагойскім раёне прайшоў чэмпіянат упраўлення унутраных спраў Мінаблвыканкама па лыжных гонках.

Чэмпіянат праходзіў у чатыры этапы: забегі на дыстанцыю 1500 метраў у жанчын, 1500 і 3000 метраў у мужчын розных узроставых груп.

У мужчын у групе ад сарака год пацвердзіў сваё майстэрства намеснік начальніка Радашкавіцкага АМ Маладзечанскага РАУС **Віктар Грыцкевіч**. Трэцяе месца заняў камандзір аддзялення ППСМ Вілейскага РАУС **Міхаіл Качан.**

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

ХАКЕЙ

# Плэй-оф: у Маладзечна шанцы мінімальныя

МАЛАДЗЕЧНА

**На гэтым тыдні стартуе апошні круг барацьбы ў мацнейшай шасцёрцы рэгулярнага чэмпіянату краіны. Становішча ў турнірнай табліцы кардынальным чынам ужо не зменіцца.**




Фота hcdinamo.by.

Гулец маладзечнаскага "Дынама" Вадзім Кляўза, злева, і хакеіст з мінскага "Юнацтва" Максім Перфеявец падчас матча.

Каманды змагаюцца за найбольш выгадныя пазіцыі перад гульнямі на выбыванне (плэй-оф). Па-першае, хочуць патрапіць на сапернікаў меншай складанасці. Па-другое, хочуць атрымаць прыярытэт па колькасці дамашніх паядынкаў.

Найбольш цікавая барацьба разгортваецца за першы радок паміж салігорскім "Шахцёрам" і сталічным "Юнацтвам". Магчыма, справа вырашыцца толькі ў апошнім туры. Пэўныя практычныя шанцы ўзняцца на адзін радок уверх мае "Гомель". Шанцы ж астатніх камандаў узняцца хаця б на радок уверх малаверагодныя. Тычыцца гэта і нашага "Дынама" (Маладзечна). Апярэдзіць у табліцы гродзенскі "Нёман" вельмі складана, лепей сачыць за тым, каб не падпусціць да сябе жлобінскі "Металург".

Калі б рэгулярны чэмпіянат завяршаўся сёння, то ў чвэрцьфінале гульняў на выбыванне, якія пройдуць да чатырох перамог аднаго з саапернікаў, маладзечанская каманда патрапіла б на гродзенскую, прычым менавіта сапернік меў бы прыярытэт па колькасці дамашніх паядынкаў.

Разам з канкрэтнымі чэмпіянатнымі задачамі даволі паспяхова маладзечанская каманда выконвае яшчэ адну сваю місію, фарм-клубаўскую, у дачыненні да сталічнага "Дынама", якое выступае ў Кантынентальнай хакейнай лізе. Наш галоўны трэнер **Дзмітры Краўчанка** ад лістапада працуе памочнікам на трэнерскім мосціку мінчан ва ўсіх іх матчах. Гэта тычыцца не толькі дамашніх паядынкаў, але і далёкіх выездаў, якія доўжацца больш за тыдзень. Па сутнасці, у апошнія месяцы маладзечанскім складам кіруе таксама дасведчаны спецыяліст **Аляксей Гіро**.

Пастаянна адбываецца ратацыя хакеістаў. У форме маладзечанскай па розных прычынах некалькі матчаў правялі вядомыя гульцы мінскага "Дынама" **Андрэй Міхалёў, Артур Гаўрус, Яўген Нагачоў**.



**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**
E-mail: sm2@tut.y

## Турнірная табліца па стане на 26 студзеня

| | Каманды | Ачкі |
|---|---|---|
| 1. | Шахцёр (Салігорск) | 82 |
| 2. | Юнацтва (Мінск) | 79 |
| 3. | Гомель | 74 |
| 4. | Нёман (Гродна) | 68 |
| 5. | **Дынама (Маладзечна)** | **59** |
| 6. | Металург (Жлобін) | 52 |

ВАЛЕЙБОЛ

# Віляйчане разыгралі "Калядны кубак" па валейболе

ВІЛЕЙКА

**"Калядны кубак" па валейболе сярод мужчынскіх камандаў прайшоў у Вілейцы 22-23 студзеня.**

Прынялі ўдзел пяць камандаў з Вілейшчыны. Гулялі яны па кругавой сістэме.

Першае месца заваявала каманда Вілейскай ЖКГ. Яна не прайграла ніводнай сустрэчы.

Тры каманды набралі па шэсць ачкоў. Уладальнікі другога-чацвёртых месцаў вызначаліся па розніцы выйграных і прайграных партый. Лепшая яна аказалася ў каманды Энергазбыту, якая заняла другое месца. На трэцім месцы – "Першы Беларускі".

Прадстаўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях занялі чацвертае месца. Пра ўсё гэта расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



**Каманда Вілейскай ЖКГ.**

Фота забяспечанае Аляксандрам ВАЙДАМ.

**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Плануюць скараціць "дэкрэтны" адпачынак. Шукаем плюсы і мінусы разам з псіхолагам і доктарам**

Дзіця можна прывучыць да гаршка і ў 6-8 месяцаў. Проста сучасным мамам гэта не трэба – прасцей начапіць падгузнік. У выніку некаторыя дзеці нават да трох год не прывучаныя да гаршка. Вядома, трэба скараціць дэкрэтны адпачынак. Тады і дзеці будуць больш здаровыя, таму што мамы трымаюць дзяцей у інкубатары па тры гады. ***Валянціна.***

**Ад 1 лютага павышаюцца дапамогі на дзяцей да трох гадоў. Максімум на долар**

Ды дзе? Такая зарплата? Хаця б блізкая да яе! А з дапамогай так, павесялілі:) ***Sh@m@n.***

**За 23 гады нас стала менш амаль на мільён. У Беларусі – чырвоны ўзровень дэмаграфічнай небяспекі**

А яшчэ ж калі ўлічыць больш за паўмільёна дармаедаў, якія павінны хуценька вымерці з-за немагчымасці дапамагчы дзяржаве грашыма – тады яшчэ "весялей". ***Узрушаны сумам.***

**Сёння на Вілейшчыне пачалі акцыю па ўсталяванні беларускамоўных шыльдаў на дамы ветэранаў (Дадалі фота 21.01)**

Вельмі добрая акцыя, важная для ветэранаў і ў выхаваўчым плане для моладзі. Важна памятаць гісторыю краіны і тых, хто яе ствараў. ***Святлана Гілевіч.***

**Вадохрышча ў Насілаве: "А адчуванне, быццам цябе жарам абдалі" (Фота)**

Дзівакі! Навошта яны гэта робяць? ***NPraw.***

**Майстроў ушу з васьмі краін збярэ ў Маладзечне турнір памяці Дзмітрыя Гвішыяні**

Выказваем вашай газеце падзяку за памяць пра нашага сына Дзмітрыя Гвішыяні. З павагай, бацькі, горад Брэст. ***Гвішыяні Барыс Рыгоравіч.***

**Дзе ў Маладзечне можна ўзяць канькі і лыжы напракат (Адрасы, час працы)**

Дзякуй за інфармацыю. Дзеці галаву адурылі, калі на каток пойдзем, а тут, аказваецца, непадалёк ад дома працуе. І пракат танны). ***Спартсмен.***

Вельмі карысная інфа, а я думала, што толькі ў Лядовым ёсць пракат канькоў. Дзякуй за публікацыю. ***Веста.***

● ТЭАТРЫ

# Мінскі абласны драматычны тэатр



*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў"** (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
11 лютага – у 12:00

**"Казка пра чырвоную стужачку"** (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*
18 лютага – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Псіхааналітык для псіхааналітыка"** (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
5 лютага – у 19:00

**"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі*
10 лютага – у 19:00

**"Не такі, як усе" (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі***
12 лютага – у 19:00

**"Верная жонка"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Сомерсет Моэм*
17 лютага – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Вакзал на траіх"** (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
19 лютага – у 19:00

**"№13"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
23 лютага – у 19:00

**"Маленькі свет"** (жорсткая меладрама), *Алена Папова*
25 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Насарог і жырафа"** (лірычная казка), *Х.Гюнтэр* (бел.)
31 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | 3 | 5 | | | | 9 |
| 2 | 9 | | | 7 | | | 3 | |
| 8 | | | | | 4 | 5 | 6 | |
| | | 2 | | | 9 | | | 8 |
| | | | | | | | | |
| 9 | | | 8 | | | 3 | | |
| | 2 | 8 | 1 | | | | | 3 |
| | 3 | | | 6 | | | 4 | 1 |
| 5 | | | | 8 | 3 | 9 | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Дзіцячы, прыгоды **"Маё піянерскае"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 студзеня – у 12:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, сямейны **"Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3"** (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
31 студзеня – у 12:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя **"Галасы вялікай краіны"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 студзеня – у 14:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя **"Кунг Фу Панда 3"** (3D, ЗША, Кітай, 2015)
29 студзеня – у 17:50
30 студзеня – у 14:40
31 студзеня – у 16:50
2 лютага – у 19:00
4 лютага – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама **"Статус: Свабодны"** (Расія, 2015)
29 студзеня – у 19:50
30 студзеня – у 22:00
31 студзеня, 3 лютага – у 18:50
1 лютага – у 21:00
Цана білета: 45 000 – 50 000

Прыгоды, трылер, драма **"Выжыўшы"** (ЗША, 2015, пасля 18 год)
30 студзеня – у 16:40
1 лютага – у 18:00
3 лютага – у 21:00
Цана білета: 40 000 – 50 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды, трылер **"5-я хваля"** (ЗША, 2015, пасля 16 год)
29 студзеня – у 22:00
30 студзеня – у 19:40
31 студзеня, 2 лютага – у 21:00
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Мультфільм, прыгоды, камедыя **"Кунг Фу Панда 3"** (3D, ЗША, Кітай, 2015)
29 студзеня – у 19:00
30 студзеня – у 17:10
31 студзеня – у 14:00
Цана білета: 65 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды, трылер **"5-я хваля"** (ЗША, 2015, пасля 16 год)
31 студзеня – у 18:00
1 лютага – у 21:30
3 лютага – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, баявік **"Мафія: Гульня на выжыванне"** (3D,




Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 студзеня – у 21:00
31 студзеня – у 16:00
Цана білета: 65 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, сямейны **"Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3"** (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
30 студзеня – у 15:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама **"Статус: Свабодны"** (Расія, 2015)
29 студзеня – у 21:00
30 студзеня – у 19:00
31 студзеня, 2, 3, 4 лютага – у 21:30
1, 2 лютага – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**.

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастыка, прыгоды, трылер **"5-я хваля"** (2D, ЗША, пасля 16 год)
29 студзеня – у 18:00
30 студзеня – у 20:50
31 студзеня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік **"Мафія: гульня на выжыванне"** (3D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
29 студзеня – у 20:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя **"Кунг Фу Панда 3"**(3D, ЗША, Кітай, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 студзеня – у 12:50
31 студзеня – у 14:50
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя **"Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3"**(2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
30 студзеня – у 14:30
31 студзеня – у 13:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, меладрама **"Статус: вольны"** (2D, Расія, пасля 16 год)
30 студзеня – у 16:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Трылер, драма, прыгоды **"Выжыўшы"** (2D, ЗША, з 18 год)
30 студзеня – у 18:00
31 студзеня – у 20:30
Цана білета: 50 000 рублёў

Мюзік, камедыя **"Галасы вялікай краіны"** (2D, Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
31 студзеня – у 16:30
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды **"Піраты Эгейскага мора"** (Грэцыя, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
29 студзеня – у 17:50
30, 31 студзеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама **"Прыкіньця маім хлопцам"** (Францыя, з 16 год)
29 студзеня – у 19:50
30, 31 студзеня – у 18:10
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Незвычайнае падарожжа Серафімы"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
30 студзеня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя **"Кінадзяцінства. Мікропаліс"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
30 студзеня – у 15:30
31 студзеня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя **"Кінадзяцінства. Ін і Яна"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
31 студзеня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Тэлефон для даведак:
(801771) **5-68-59.**

● ГАРАСКОП

29 СТУДЗЕНЯ – 4 ЛЮТАГА

**Авен.** Шмат для каго гэты час будзе спрыяльным. Вакол вас утворыцца магутнае энергетычнае поле, якое будзе прыцягваць да вас новую інфармацыю, патрэбных людзей і спрыяльны збег абставінаў.

**Цялец.** Прымайце людзей такімі, якія яны ёсць на самой справе. А самі пастарайцеся быць больш простымі і натуральнымі. Тады пераканаецеся, што людзі пацягнуцца да вас, жыццё пачне мяняцца ў лепшы бок.

**Блізняты.** Пазітыўны погляд на свет дазволіць вам з лёгкасцю спраўляцца нават з самымі складанымі задачамі. Вам трэба адчуць смак жыцця. Для гэтага трэба куды паехаць, пайсці ў адпачынак, пазбавіцца ад мітусні і клопатаў.

**Рак.** Увасабляйце ў жыццё свае смелыя ідэі, рэалізуйце сябе ў творчасці і... каханні: яно можа знайсці вас там, дзе вы яго менш за ўсё чакаеце.

**Леў**. Кагосьці з вас спрабуе накрыць хваляй шчасця прыгажуня-ўдача. Толькі ўспрымайце ўсё спакойна.

**Дзева.** Не верце чуткам і плёткам, лепш прыслухайцеся да сябе, інтуіцыя вас не падмане. А яшчэ пазбягайце спакусы разганяць маркоту п'янствам.

**Шалі.** Вашы інтарэсы могуць быць накіраваныя на такую рэч, як непазнаны бок жыцця. Гэта час для ажыццяўлення многіх фантазій.

**Скарпіён.** Каб жыццё стала больш спакойным, памятайце залатое правіла: парады трэба даваць толькі тым, хто аб гэтым просіць. Трымайце ў парадку важныя дакументы.

**Стралец.** Не бойцеся быць шчаслівымі. І няхай сабе навакольныя коса глядзяць на вашу не да месца ўсмешку. Калі вы задаволеныя і шчаслівыя, свет вакол вас пачынае мяняцца ад вашага пазітыўнага настрою.

**Казярог.** Стаўце перад сабой маштабныя мэты, павышайце планку чаканняў і не ленуйцеся: вам многае будзе дадзена зоркамі. Спрабуйце сябе ў тым, чым ніколі не займаліся.

**Вадалей.** Клапаціцеся пра сваё здароўе, бо месяц да дня нараджэння і месяц пасля дня нараджэння лічацца самымі "хваравітымі".

**Рыбы.** Калі вам цяжка і звяртаецеся да вышэйшых сіл аб дапамозе, то прасіце не аб тым, каб вас вылечылі, а аб тым, каб навучылі, як дапамагчы сабе самому.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## ● НАДВОР'Е

### 30 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / +1 | | 0 / +3 | | +2 / +1 | | -1 / 0 | |
| | 743 | → 5 | 740 | ↗ 6 | 731 | → 6 | 730 | → 5 |
| Вільня | +1 / +3 | | +2 / +5 | | +3 / +2 | | -1 / +1 | |
| | 752 | → 5 | 746 | ↗ 7 | 737 | → 7 | 737 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 9.04
Захад 17.47
Даўжыня дня 8.43


Усход 0.00
Захад 11.22
Квадра 3




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература -28,1 °С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +3,1 °С у 2008 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 4,5 мм у 2000 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **КАЛЯНДАР САДАВОДА І АГАРОДНІКА НА 2016 ГОД. У ім вы даведаецеся, у якія дні найлепш садзіць ці сеяць культуры, каб атрымаць добры ўраджай, расце Месяц ці ідзе на спад. Дазнаяцеся, калі сатанінскія дні, у якія не варта не толькі нічога садзіць ці сеяць, але і прымаць важныя рашэнні.**



## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ


Фота забяспечана Святланай МАЦУКЕВІЧ.

**У Вілейскім дзяржаўным каледжы ўстанавілі каваную лаву з трохвуголкай Напалеона. Яе апрабоўвае дырэктар установы Ігар Кіцікаў.**

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Пацыент – доктару:
– Доктар, дзякуй, якія цудоўныя лекі, я цалкам паправіўся!
– Хм, цікава-цікава, трэба і сабе паспрабаваць.

***

16 год: Жыццё – гэта боль, у якім няма сэнсу.
36 год: Ого, патэльня на акцыі, вазьму сабе парачку.

***

Дыскатэка ў вясковым клубе. Хлопец дзяўчыне:
– Ты танцуеш?
– Пакуль не...
– Пайшлі, трактар дапаможаш падпіхнуць.

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці павінны працадаўца забяспечваць работніка жыллём?



**Ганна Пагасян, у дэкрэтным адпачынку:**
– Жыву ва ўласнай кватэры, таму не задавалася гэтым пытаннем. Мяркую, што жыллё вельмі патрэбнае маладым спецыялістам, пакуль яны не стануць на ногі, не будуць атрымліваць добры заробак.



**Лідзія Балыш, краўчыха:**
– Сумняваюся, што цяпер работнікаў забяспечваюць жыллём. Магчыма, калі спецыяліст працуе за горадам, то можа атрымаць інтэрнат. Важна, каб чалавек атрымліваў годны заробак, каб была магчымасць пабудаваць сваё, а не разлічваць на дзяржаўнае.



**Уладзімір Кацельнікаў, выкладчык:**
– Думаю, што павінны, асабліва настаўнікаў, медыцынскіх работнікаў.



**Алеся Ліпская, у дэкрэтным адпачынку:**
– Чалавек павінны ў першую чаргу разлічваць на свае сілы, самастойна паклапаціцца пра жыллё. А ўжо пасля на працадаўцу, каб той даў пакой у інтэрнаце альбо часткова пакрываў аплату за жыллё.



**Надзея Бялько, страхавы агент:**
– Для многіх спецыялістаў важна, каб працадаўца забяспечыў іх жыллём, аднак не ўсе прадпрыемствы, арганізацыі могуць гэта зрабіць. У першую чаргу трэба даваць жыллё людзям рабочых спецыяльнасцяў, бо ў гэтай сферы малыя заробкі.



**Аляксандр Рафаловіч, настаўнік:**
– Так, асабліва гэта важна для маладых спецыялістаў, якія прыязджаюць у іншы горад па размеркаванні. Аднак лічу, калі спецыяліст пераходзіць на іншую работу, не трэба забіраць жыллё. Лепш у такім выпадку павялічыць плату.



**Наталля Мазура, прадпрымальніца:**
– Не, не павінны, пра гэта ў першую чаргу трэба клапаціцца работніку. Выключэнне, калі спецыяліста накіроўваюць у камандзіроўку альбо працуе вахтавым метадам.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№5 (1083) 29.01.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 84. Падпісана ў друк у 9.00 28.01.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.